ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ



№ 38 (94) 18 – 24 лістапада 1994 г. Кошт 50 рублёў

*Мы ўсе нясем адказнасьць за тое, што гэтыя людзі не знайшлі сваё месца ў жыцьці.* - ст. 3.

*Шведзская паліцыя затрымала грамадзяніна Летувы, які пагражаў узарваць Ігналінскую АЭС.* - ст. 4.

*На заклік Рады Случчыны адгукнуліся амаль усе - маладыя, старыя і нават жанчыны.* - ст. 5.

*ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.* - ст. 6-7.



## ПРЭЗІДЭНЦКАЯ КАМАНДА ЛІЧЫЦЬ, ШТО КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД ПАДДАЎСЯ ЦІСКУ

На прэс-канферэнцыі ў панядзелак віцэ-прэм'ер і адзін з бліжэйшых паплечнікаў Прэзідэнта Беларусі В.Ганчар заявіў, што "ніякага канстытуцыйнага крызісу няма". Па яго словах, каманда прэзідэнта вядзе актыўныя кансультацыі з Канстытуцыйным судом.

Віцэ-прэм'ер В.Ганчар зьвярнуў увагу на тое, што КС РБ перанёс з 5 сьнежня на 24 лістапада разгляд справы аб адпаведнасьці Асноўнаму Закону папраўак да Закону аб мясцовым самакіраваньні, якія прадугледжвалі ўвядзеньне прэзідэнцкай "вертыкалі" улады. У эксклюзіўным інтэрв'ю карэспандэнту СІМ ён заявіў: "Рэкамендацыі КС (адмяніць на працягу 304 дзён рашэньне аб спыненьні дзеяньня гэтага заканадаўчага акту - СІМ) насілі хутчэй эмацыянальны характар. Ніхто не мае права адмяніць рашэньне Канстытуцыйнага суда. Я мяркую, што КС адрэагаваў на пажаданьне прэзідэнта і перанёс разгляд гэтага пытаньня з 5 сьнежня на 24 лістапада. Я думаю, што гэта пазітыўны крок на шляху да канструктыўнага разгляду гэтага пытаньня".

Між тым, выконваючы абавязкі старшыні КС В.Ціхіня заявіў карэспандэнту СІМ, што вядомая заява прэзідэнта зьяўляецца некарэктнай. "Канстытуцыйны суд падпарадкоўваецца не прэзідэнту, а Канстытуцыі", - падкрэсьліў ён і пацьвердзіў, што КС, нягледзячы на патрабаваньні прэзідэнта, не адмяніў свайго рашэньня аб прымяненьні дзеяньня папраўак да Закона аб мясцовым самакіраваньні.

## ДАБРАЛІСЯ І ДА СІМВОЛІКІ

10 лістапада М.Грыб падпісаў пастанову Прэзідыўма Вярхоўнага Савета аб стварэньні камісіі па пытаньнях дзяржаўнай сімволікі. У дакуменьце гаворыцца, што такая неабходнасьць паўстала "у сувязі са шматлікімі зваротамі грамадзкіх арганізацый і асобных грамадзян". З ініцыятывай перагляду існуючай дзяржаўнай сімволікі даўно выступала парламенцкая камісія па справах ветэранаў, старшыня якой Жукоўскі ўключаны ў склад камісіі Прэзідыўма.

На думку экспертаў СІМ, камісія сфарміравана з мэтай падрыхтаваць негатыўнае заключэньне па гербу і сьцягу. У лік яе членаў, акрамя спецыялістаў, уключаны старшыня Рэспубліканскага Савета арганізацыі ветэранаў Андрэеў і начальнік аддзелу музея гісторыі ВАВ Чарнаглазава. Камісія павінна прадставіць сваё заключэньне Прэзідыўму ВС РБ да 15 сьнежня 1994 года.

## МІЛЬЯРД - ТУДЫ, МІЛЬЯРД - СЮДЫ...

Аддзел па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю Віцебскай вобласьці нядаўна правёў праверку дзейнасьці абласнога Фонда сацыяльнай абароны насельніцтва. Фондам кіруе М.Бялоў, які прызначаны на пасаду начальніка Ўпраўленьня службы кантролю Адміністрацыі Прэзідэнта Віцебскай вобласьці. У ходзе праверкі высьветлілася, што ў лістападзе 1993 года Фонд, не пагасіўшы патрэбу ў фінансавых рэсурсах Цэнтру па выплаце пеньсій, перадаў 200 млн. рублёў чыгуначнаму аддзяленьню Віткамбанка пад 210% гадавых. Перад гэтым Фонд дадаткова пералічыў 20 млн. рублёў на ўтрыманьне апарату. У агульным ліку продаж Фондам дадатковых рэсурсаў у 1991 годзе склаў 186 мільёнаў рублёў, а ў 1992 годзе - больш мільярда рублёў. У 1993 годзе сума склала 17 млрд. рублёў. Па гэтай прычыне многім пеньсіянерам была затрымана выплата пеньсій. АБАП лічыць, што такія дзеяньні Фонда неправамоцныя.

Кіраўнік Фонда М.Бялоў, наадварот, лічыць свае дзеяньні законнымі, таму што, на яго думку, неразумна не прадаць вольныя грошы для камерцыйных структур.

Пасьля публікацыі вынікаў праверкі АБАП у "Віцебскім кур'еры" Мікалай Бялоў паабяцаў падаць на газету ў суд.

**СІМ**

**УВАЗЕ ЛЕТУВІСКІХ ЧЫТАЧОЎ "ПАГОНІ"!**
**Купіць ці падпісацца на нашу газету вы можаце ў Вільні па адрасу: вул.Соду, 14 (атэль "Гінтара", газетны шапік у холе першага паверха).**
**Тэлефон для даведак: (у Вільні): (8-22) 63-89-22.**

## ДВА МЕРАПРЫЕМСТВЫ Ў АДЗІН ДЗЕНЬ

11 лістапада споўнілася 76 гадоў з Дня атрыманьня Польшчай незалежнасьці. На наступны дзень з гэтай нагоды ў малой зале Гарадзенскага абласнога драматычнага тэатра прайшла вечарына. На ёй старшыня фонда "Дапамога палякам на Ўсходзе" А.Краўчык і старшыня Саюза палякаў Беларусі Т.Гавін нагадалі прысутным аб значнасьці гэтага сьвята для кожнага паляка. А консул Рэспублікі Польшча М.Машкевіч, крыху спыніўшыся на гісторыі станаўленьня Польскай дзяржавы, сказаў аб неабходнасьці ўмацаваньня добрасуседзкіх адносін паміж суседнімі дзяржавамі і паляпшэньня стасункаў паміж палякамі і беларусамі.

Вельмі разнастайнай была праграма, паказаная прысутным народным ансамблем песьні і танца "Лехіці": народныя песьні і танцы, гульні, аўтарскія творы сусьветна вядомых кампазітараў М.Агінскага, С.Манюшкі і іншых.

Потым адбылося адкрыцьцё выставы "Сучасная польская кніга". Старшыня фонду "Дапамога палякам на Ўсходзе" А.Краўчык, які выступіў перад гэтым, выказаў думку, што "кнігі павінны ўзбагачаць нас як палякаў і як людзей", а таксама спадзяваньне, што і беларусам будзе цікава азнаёміцца з экспазіцыяй. Некалькі слоў прысутным сказаў намесьнік старшыні Гарадзенскага аблвыканкама А.Пашкевіч. На яго думку, правядзеньне падобных мерапрыемстваў садзейнічае збліжэньню народаў.

На выставе прадстаўлены разнастайныя па тэматыцы кнігі (гістарычныя, рэлігійныя, навукова-папулярныя, мастацкія выданьні, слоўнікі, даведнікі, музычныя выданьні, часопісы), выданыя на працягу апошніх чатырох гадоў. Яны адлюстроўваюць цяперашні ўзровень выдавецкай справы ў Польшчы. Таму, як лічаць арганізатары, яны зацікавяць як бібліяфілаў, так і аматараў польскай культуры на Беларусі.

Пасьля закрыцьця выставы, якая будзе дзейнічаць да 30 лістапада, усе прадстаўленыя на ёй кнігі будуць перададзены ў бібліятэку Саюза палякаў Беларусі.

**А.ДУК.**

## ШЭСЬЦЬ З АДЗІНАЦЦАЦІ

У тэатры лялек Горадні адбыўся шосты адкрыты аўкцыён па продажу камунальнай уласнасьці горада.

На продаж аддзел па кіраваньню камунальнай маёмасьцю і прыватызацыі гарвыканкама вынес 11 аб'ектаў. Стартавы кошт быў роўны 422,600 000 тысячам беларускіх рублёў.

На жаль, на некаторыя аб'екты сярод мясцовых і наезжых камерсантаў не зьявілася ахвочых.

Два аб'екты былі зьняты з аўкцыёна, на адзін проста не было канкурэнцыі, бо зарэгістраваўся ўсяго адзін пакупнік, на другі - будынак па вуліцы Чапаева,34,- на думку аўтара гэтых радкоў, пакупнікамі было прапанавана замала - усяго 95 мільёнаў рублёў.

Таму, лот пад N 1 быў зьняты без каментараў.

Усяго з выстаўленых на продаж і права арэнды 11-ці лотаў было прададзена ці выкуплена на права арэнднага карыстаньня крыху болей палавіны аб'ектаў, шэсьць лотаў.

Асабліва шчыраваў спадар у зялёным строі з тыповай каўказскай зьнешнасьцю. За краму N 18 па вуліцы В.Церашковай,29-а ён заплаціў 570 мільёнаў рублёў, а за ДМГП "Модуль" не пашкадаваў 470 мільёнаў.

Потым у перапынку мясцовыя бізнесмены паціху між сабой згадвалі, што чалавек ў зялёным - прадстаўнік нейкай маскоўскай фірмы. Адным словам, як бы там ні было, але маскоўскі госьць у значнай ступені засмуціў мясцовых заможных камерсантаў, якія хуценька разышліся пасьля аўкцыёна, не зважаючы на заклік вядучага пачаставацца кавай ці заліць горыч няўдачы ў кавярні "Батлейка". Але не трэба даходзіць да адчаю, можа здарыцца так, што вельмі пашанцуе на наступных таргах.

**Г.АСТРОЎСКІ.**

## ЁСЬЦЬ ЯШЧЭ ШТО ПРАДАЦЬ

Дадзеныя Гарадзенскага аблстатупраўленьня сьведчаць, што за дзевяць месяцаў бягучага года экспартныя пастаўкі прадукцыі і паслуг склалі 143158,4 мільёна рублёў (у зьнешнегандлёвых цэнах 54,1 мільёна долараў; 86,1 працэнта экспарту прыпадае на сыравіну і матэрыялы, 11,7 працэнта - на тавары народнага спажываньня, 2,1 працэнта - на машыны і абсталяваньне, 0,2 - на паслугі).

Пакуль Гарадзеншчына не можа ганарыцца геаграфіяй гандлю, бо прадукцыя ішла ў 34 краіны сьвету, пераважна ў эўрапейскія. Таму ўдзельная вага экспарту ў Заходнюю Эўропу складае звыш 55 працэнтаў і каля 30 - ва Ўсходнюю Эўропу, а ў Лацінскую Амерыку (Аргеньціна) - 0,0018 працэнта. Галоўным партнёрам зьяўляецца Нямеччына: яна імпартавала ў Гарадзенскай вобласьці прадукцыі на 16,325 мільёна долараў (звыш 30 працэнтаў усяго аб'ёму экспартных паставак з вобласьці). Далей ідуць Латвія - 4,705 мільёна, Італія - 4,955 мільёна, Польшча - 4,705 мільёна, ЗША - 4,364 мільёна долараў. Найменш прадукцыі экспартавана ў Аргеньціну (адна тысяча $), Ізраіль (дзьве тысячы $), Паўднёвую Карэю ( 12 тысяч $).

Найбольш трывалыя сувязі ў Гарадзеншчыны з Летувой, Польшчай і Латвіяй, якімі экспартавана 71,36 і 27 відаў прадукцыі і паслуг. І ўсяго толькі адным відам тавару абмяжоўваюцца экспартныя стасункі з Алжырам, Індыяй, Ізраілем, Іранам, Кіпрам, Аргеньцінай, Ліванам, Румыніяй, Славеніяй, Саўдаўскай Аравіяй, Тунісам і Фінляндыяй.

Лідэрам па аб'ёму пастаўленай у студзені-верасьні бягучага года прадукцыі за мяжу застаецца Гарадзенскае ВА "Азот" - 33,119 мільёна долараў або 61,2 працэнта ад усяго аб'ёму. Сярод самых актыўных экспарцёраў - ВА "Хімвалакно" (9,78 працэнта), ВА "Ваўкавыскцэментнашыфер" (3,99 працэнта), АТ "Мастадрэў" (3,7 працэнта).

Сярод экспартуемых тавараў найбольшым попытам карысталіся ільновалакно, радыёпрыёмнікі завода "Радыёпрыбор", посуд шклозавода "Нёман", фанера АТ "Мастадрэў". Кожны з гэтых відаў прадукцыі пастаўляўся ў восем краін сьвету.

Увогуле ж гарадзенскі экспарт адлюстроўвае амаль усе сферы вытворчасьці. Гэта будматэрыялы, сыравіна для хімічнай і лёгкай прамысловасьці, адзеньне, абутак, сельгасмашыны і запчасткі да іх, радыёапаратура, прадукты харчаваньня. Значыць, ёсьць яшчэ што прадаць.

**Д.АЛЕГАЎ.**

**ДЭМАКРАТЫЧНАЕ АБ'ЯДНАНЬНЕ ВЕТЭРАНАЎ Г.ГОРАДНІ ІНФАРМУЕ**

*22 лістапада ў 16 гадзін ў памяшканьні ЖЭСа N 15 (вул.Рэпіна) будзе праводзіцца сход ДАВ г.Горадні, на якім будзе абмеркаваны Статут аб'яднаньня, палітычная і эканамічная сітуацыя Рэспублікі Беларусь.*

*Запрашаем да ўдзелу ўсіх ветэранаў вайны, працы, Узброеных сіл, ахвяр палітычных рэпрэсій.*

**АДДЗЕЛ КУЛЬТУРЫ ГАРВЫКАНКАМА**

*запрашае на першы гарадзкі фестываль нацыянальных абрадаў, які адбудзецца 19 лістапада ў тэатры лялек. Пачатак а 15-ай гадзіне.*

 



# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

*НАШЫ ДЫЯЛОГІ*

## «ПАКУЛЬ НАРОД НЕ ВЕДАЕ СВАЁЙ ГІСТОРЫІ, З ІМ МОЖНА РАБІЦЬ УСЁ, ШТО ХОЧАШ»

**Нядаўна ў Слоніме па дэпутацкіх справах пабываў намесьнік старшыні камісіі па адукацыі, культуры і захаваньню гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь АЛЕГ ТРУСАЎ. Наш карэспандэнт ВІКТАР ВАЛАДАШЧУК сустрэўся з парламентарыем і папрасіў яго адказаць на пытаньні.**

- Алег Анатольевіч, вы толькі што зрабілі экскурсію па Слоніму, агледзелі мясцовыя гістарычныя славутасьці. Скажыце, калі ласка, якое ўражаньне ў вас засталося?

- Ведаеце, Слонім - гэта горад маёй маладосьці. Я тут пачынаў сваю археалагічна-рэстаўрацыйную кар'еру ў 1978-1979 гадах. І пасьля гэтага доўгі час не прыязджаў. Уражаньні ў мяне засталіся вельмі добрыя, асабліва пасьля наведваньня касьцёла Сьвятога Андрэя. У свой час мы выязджалі сюды яшчэ маладыя тады хлопцы і дзяўчаты з рэстаўрацыйных майстэрняў, каб выратаваць гэты помнік ад выбуху. Я памятаю разьбітыя скляпеньні, гурты галубоў і крумкачоў над шпілямі касьцёла. Падала цэгла, усюды бруд і, самае страшнае, - міна замаруджанага дзеяньня - соль, якая знаходзіцца ўнутры будынка. Мы тады пайшлі да тагачаснага кіраўніка горада, доўга з ім гутарылі і пераканалі яго, каб не ўзрываць гэты помнік. А планавалася касьцёл разбурыць і за лік яго тэрыторыі расшырыць пляцоўку для стаянкі аўтобусаў. І ён пагадзіўся, нават даў распараджэньне вывезьці з будынка соль. Потым касьцёл Сьвятога Андрэя быў унесены ў сьпіс помнікаў па кантролю нашай камісіі Вярхоўнага Савета, калі я стаў дэпутатам. Кіраваць ужо прыйшлося з Менска, але пастаянна трымаў сувязь са Слонімам і меў інфармацыю аб лёсе помніка. І цяпер, калі бачу дзеючы, нанава адноўлены касьцёл, стала вельмі прыемна, што помнік выжыў і будзе жыць. Таксама і многія іншыя помнікі ў добрым стане. Адзінае, што хвалюе, гэта будынак сінагогі. Па зьнешняму яго выгляду бачна, што стан яго пагоршыўся ў параўнаньні з тым, якім ён выглядаў дзесяць гадоў таму. Думаю, што з часам лёс і гэтага помніка будзе станоўча вырашаны. Узьніму пытаньне на сесіі Вярхоўнага Савета, бо гэты помнік належыць да XVII стагоддзя і зьяўляецца ўнікальнай культурнай каштоўнасьцю для Беларусі і нават для Эўропы ўвогуле. Шмат трэба папрацаваць па добраўпарадкаваньню кляштара, дзе зараз інтэрнат медвучылішча. Але наогул наведваньне Слоніма паказала, што Беларусь адраджаецца. За час незалежнасьці зроблена столькі, што аб гэтым нельга было і марыць. Вось за гэтыя тры гады гарадзкія ўлады, якія б яны не былі, як бы мы іх не крытыкавалі, зрабілі шмат па добраўпарадкаваньню, горад чысты. Зьявіліся камерцыйныя структуры, якія займаюцца аднаўленьнем старых дамоў у цэнтральнай частцы раённага цэнтру. Прыхільнікі старажытнасьці адрадзілі былыя стайні пана Пуслоўскага ў Альбярціне. Пачалося будаўніцтва мясцовага тэатра. Гэта гаворыць аб тым, што людзі прачнуліся і пачалі быць гаспадарамі. Ім не трэба загадаў ні з Масквы, ні з Варшавы.Пачалося нармальнае культурнае жыцьцё самога горада. І гэтыя працэсы, мне здаецца, ужо ніхто не спыніць.

- Што за час свайго існаваньня зрабіла ваша камісія?

- Вялікая перамога ў тым, што, нягледзячы на супраціўленьне адміністрацыі прэзідэнта, нам удалося паставіць у парадак работы сесіі і прыняць канстытуцыйнай большасьцю Закон "Аб нацыянальных архівах". Два гады мы распрацоўвалі гэты закон, які надае архівам статус юрыдычнай асобы. А без архіўнай справы гісторыі не паднімеш. Дарэчы, і прэзідэнт прыслухаўся да нашых думак. Архіўнае ўпраўленьне не скасавана, а створаны камітэт пры адміністрацыі прэзідэнта. Такім чынам, яно атрымала такі статус, якога ніколі раней не мела. Закон добры. Ён прадугледжвае, каб нішто гістарычнае не прапала. Любая партыя, рух, дзяржаўная або прыватная ўстановы абавязаны здаваць свой архіў на дзяржаўнае захоўваньне.

Засмучае, праўда, тое, што да сёньняшняга дня мы не можам прыняць Закон "Аб бібліятэках", хаця ён добра падрыхтаваны. Чамусьці камандзе прэзідэнта не падабаюцца законы культурнага напрамку і па нейкіх там невядомых абставінах апошні законапраект адкладваецца да чарговай сесіі. А нам вельмі хочацца, каб ён быў прыняты да роспуску парламента ў першым чытаньні, а дасьць Бог, і ў другім. І тады будзе скончана наша планавая задача, якую намеціла камісія на перыяд сваёй дзейнасьці. Хаця хацелася мець яшчэ і Закон "Аб музеях і тэатрах", але ўжо пакінем яго ў спадчыну новай камісіі.

- Тым не менш, сёньня некаторыя парламентарыі да першачарговых праблем на цяперашняй сесіі адносяць перагляд існуючай дзяржаўнай сімволікі. Я тут маю на ўвазе прапанову дэпутата ад ветэранскай арганізацыі Жукоўскага, які настырна імкнецца стварыць камісію па вывучэньню, а, напэўна, і перагляду дзяржаўнай сімволікі. І што тут засмучае, яго ініцыятыву падтрымлівае прэзідэнт.

- На маю думку, выбары прэзідэнта паказалі, што пакуль каля ўлады засталася тая ж самая наменклатура, толькі другая яе частка - маладая. А старыя і маладыя наменклатуршчыкі чым адрозьніваюцца? Вялікай непавагай да ўсяго беларускага: да мовы, да культуры, да сімвалаў, да ўсяго гістарычнага. У іхнія душы закладзена халуйства, магчыма, з матчыным малаком. І вось гэтыя людзі ніяк не могуць зразумець, што іх час мінуў, што гісторыя пайшла наперад. І колькі не гавары пра велізарную сувязь, напрыклад, з Расеяй, усё роўна ад гэтага сувязь лепшай не стане. Як ні стараўся гаварыць Лукашэнка "о воссоединении", узамен атрымаў у "Известиях" артыкул "Краіна агуркоў". І ўпершыню за ўсю гісторыю незалежнасьці стасункаў Беларусі з Расеяй Міністэрства замежных спраў вымусіла паківаць пальцам у бок старэйшага брата. Настолькі матэрыял абразіў усіх нас, беларусаў. А хто вінаваты? Вінаваты тыя людзі халуйскага паходжаньня, якія думаюць, што калі яны размаўляюць на трасянцы, то ім і нафту дадуць бясплатна. Не, плаціць трэба. Таму ўсе гэтыя спробы стварыць розныя камісіі і штось яшчэ нічога не дадуць. Хай ствараюць, хай пацяшаюцца. Тым больш, я думаю, што гэты новы рэжым пратрымаецца менш, чым стары.

- Чаму?

- Таму што ў яго сацыяльная апора слабейшая, чым у старога. Таму што на стары рэжым працавала пэўная частка старой інтэлігенцыі, а цяперашні рэжым падтрымалі людзі недасьведчаныя, я б сказаў - люмпен. Людзі, якія чакалі нейкага цуда, што вось прыйдзе добры бацька, і назаўтра ўсё зьменіцца. Тым больш, такія былі абяцаньні. А цяпер вядома, што ні заўтра, ні пасьлязаўтра і наогул, пакуль будзе заставацца гэты рэжым, ніколі дабра не будзе. Прэзідэнцкія выбары паказалі, што народ абудзіўся. І мяркую, што праз год, праз два ён разьбярэцца, што да чаго і зразумее кошт абяцаньняў. Тым больш, мы бачым, што прэзідэнцтва ў краінах былога Саюза прыжываецца вельмі пакутліва. Мне здаецца, новы парламент паставіць усё на сваё месца. Так ці інакш, але ў парламент будуць ісьці людзі розных партый і палітычных рухаў - ад камуністаў да БНФ - з крытыкай прэзідэнта, бо не будзе больш каго крытыкаваць. Кебіча забудуць. А праз год ці больш сітуацыя настолькі пагоршыцца, што ўсе будуць крытыкаваць толькі адну асобу, як цяпер Валенсу ў Польшчы або Ельцына ў Расеі. Кандыдатура новага кандыдата заўжды будзе зьвязана з крытыкай у адрас кіруючай улады. А паколькі ўсю паўнату ўлады, распусьціўшы Саветы, узяў на сябе прэзідэнт, то і крытыка будзе накіравана на яго. Ён, па сутнасьці, выклікаў сам на сябе агонь. Я б назваў яго "палітычным камікадзе". Мне па-чалавечы яго шкада, бо я як гісторык разумею ўсю абсурднасьць сітуацыі, у якую ён трапіў.

- Добра. Алег Анатольевіч, мы трохі адхіліліся ад культуры ў бок палітыкі. Наступнае пытаньне ў мяне такое. Сёньня культура ў сельскай мясцовасьці практычна прыходзіць у заняпад. Некалі славутыя сельскія клубы ў большасьці набываюць смутны выгляд. Будынкі паступова старэюць, разбураюцца... Ці прапрацоўвае камісія якія-небудзь захады для адраджэньня культурных установ на вёсцы?

- Пачну свой адказ з таго, што ўбачыў сёньня ў Альбярціне. Там прыкмеціў унікальную сітуацыю, якая цалкам адлюстроўвае нашу сёньняшнюю культуру. З аднаго боку, аднаўляюцца царква і касьцёл, якія знаходзіліся ў страшэнным стане. А крыху ніжэй стаіць запушчаны палац Пуслоўскага. Прытым, там два будынкі. Адзін больш-менш у нядрэнным стане, а другі, дзе некалі была спартыўная зала, можа прапасьці наогул, калі не пачаць яго аднаўленьне. На гэта я зьвярнуў увагу ўлад. І такі малюнак можна ўбачыць на ўсёй Беларусі.

Што такое Дом культуры? Гэта чырвоны куток у казарме. Звычайна яго рабілі з царквы ці касьцёла, папярэдне прыбраўшы ўвесь рэлігійны рыштунак. І зараз народ вяртаецца да сваёй традыцыйнай культуры. Паглядзіце, колькі за апошнія тры гады адноўлена цэркваў, касьцёлаў і колькі пабудавана новых. У асноўным гэта рабілася ў вёсках, у горадзе пачалі намнога пазьней. Такім чынам, селянін адмаўляецца ад савецкай культуры і цягнецца да культуры продкаў, а яна зьвязана непасрэдна з хрысьціянствам. І гэта станоўчы факт. Што рабіць з гэтымі сельскімі Дамамі культуры? Яны пустыя, туды амаль ніхто не ходзіць і не будзе хадзіць. І мне здаецца, што адзіны іх лёс - гэта частковая перадача будынкаў хрысьціянскім канфесіям, а часткова - для разьвіцьця культуры сьвецкай. На беларускай вёсцы заўжды была сьвецкая культура. Гэта - карчма, пасядзелкі, вячоркі. Таму, на маю думку, гэтыя дамы трэба перадаваць вернікам для нядзельных школ, а частку будынкаў варта скарыстаць для адраджэньня менавіта нашага фальклору, нашай гісторыі, культуры. Галоўнае, каб яны не пуставалі, каб там было жыцьцё. Няхай там будзе крама, цырульня, але каб некалькі пакояў заставалася і для таго, дзе можна было б вечарам правесьці рэпетыцыю.

## АДКРЫТЫ ЛІСТ ПРЭЗІДЭНТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Паважаны спадар А.Р.Лукашэнка!

Я жыву ў Горадні. Працую на заводзе "Радыёпрыбор" электрыкам. Зьяўляюся сябрам Беларускага Народнага Фронту. Заўсёды ўважліва слухаю, чытаю і гляджу Вашы выступы. Слухаў таксама апошні па радыё на паседжаньні 12 лістапада. У многім Вашы думкі і выказваньні супадаюць з тымі, што хвалююць грамадзтва. У той жа час, у многіх Вашых поглядах, я лічу, ёсьць памылкі. Часта Вы прымаеце пасьпешлівыя неабгрунтаваныя рашэньні, з якімі я не згодны.

Напрыклад. Як Вы ставіцеся да БНФ? Мне здаецца, што Вы занялі якуюсьці аднабаковую адмоўную пазіцыю адносна маёй партыі. А ці даводзілася Вам пазнаёміцца з праграмай БНФ ці яго Статутам, у якім запісана, што Фронт абараняе інтарэсы ўсяго насельніцтва Беларусі?

За шматвяковую гісторыю народ Беларусі перанёс многа пакут. На Беларусь ішла навала і татар, і шведаў, і немцаў, і французаў, і палякаў, і рускіх. Ніхто не ішоў сюды з добрымі намерамі. А толькі для таго, каб забіць, абрабаваць, зьняволіць. Але, дзякуй Богу, беларусы ўсё ж жывуць на сваёй зямлі, і спадзяюся, што будуць тут жыць вечна. А мы (я сябе таксама да іх залічваю), хто прыехаў сюды з іншых месцаў, павінны ведаць мову гэтай рэспублікі, паважаць і шанаваць яе, ведаць і гісторыю Беларусі, і яе звычаі. Як ацаніць дзейнасьць ці, дакладней кажучы, бязьдзейнасьць улады, якая нічога не зрабіла для таго, каб 2 лістапада людзі адчулі, што дзень памяці памёрлых ("Дзяды") зьяўляецца дзяржаўным сьвятам? Ніводнага ж бел-чырвона-белага сьцяга з чорнай стужкай не было на вуліцах Горадні.

6 лістапада тут быў арганізаваны мітынг. Мітынгуючыя трымалі ў руках чырвоныя сьцягі і сьцягі цяпер неіснуючай БССР. Зразумела, што у некаторых яшчэ захавалася настальгія па мінулым СССР. Але ж гэта ўжо мінуўшчына. Гісторыю назад не павернеш. Цяпер Беларусь мае свой нацыянальны сьцяг, герб. Ёсьць у нас Прэзідэнт. Ёсьць Канстытуцыя. Тое, што адбывалася на мітынгу, яшчэ раз даказала, што некаторым асобам гэта не даспадобы. Адзін з выступаючых сказаў літаральна наступнае: "Ельцын, Шушкевіч, Пазьняк і другая бэнээфаўская сволач..." Як Вам гэта падабаецца? А што наконт гэтага думаюць мясцовая ўлада і пракуратура? І, нарэшце, што думаеце наконт гэтага Вы?

Вы адмоўна ставіцеся да вольных прафсаюзаў. Але ж скажыце, куды пайсьці нам (мне і маім таварышам па працы), калі ўжо цэлы год мы не можам дамагчыся, каб сабралі прафсаюзны сход цэха, каб вырашыць свае балючыя праблемы. Мы зьвярталіся да прафсаюзных лідэраў завода. Але нічога ніхто не робіць для таго, каб дапамагчы нам. Ніхто не растлумачыць, чаму ў нас такая жабрацкая зарплата і як на яе пражыць. Зыходзячы з усяго гэтага самі сабой робяцца вывады, што патрэбны свабодныя прафсаюзы, якія б сапраўды абаранялі інтарэсы працоўных. А пра цэны ў крамах і казаць няма чаго. Што ні дзень, то новыя сюрпрызы, якія ўвесь час трымаюць людзей у стрэсавым стане. Многія не даядаюць, не маюць сродкаў на тое, каб апрануць дзяцей, купіць ім неабходную для росту і разьвіцьця ежу. Пра культурнае жыцьцё і гаворкі няма. Жывем па прынцыпу "тры "Д": дажываем, даядаем, данашваем, калі, канечне, у каго яшчэ ёсьць што данашваць і даядаць. Становішча жахлівае. Дзе ж выйсьце з яго?

**З павагай**
**Рыгор ФАРМАНЯН,**
**г.Горадня.**

## НЕЗАДАВОЛЕНЫ ЗАКОНАМ, АЛЕ НАСТРОЕНЫ АПТЫМІСТЫЧНА

Вярхоўны Савет Беларусі адверг прапанову шэрага дэпутатаў перагледзець Закон аб выбарах і ўвесьці *зьмешаную* мажарытарна-прапарцыянальную сістэму. Намесьнік старшыні Беларускага Народнага Фронту В.Голубеў заявіў карэспандэнту СІМ, што парламенцкая большасьць паводзіла сябе "як сабака на сене". "Яны забаранілі сваю партыю, ліквідавалі свае ўласныя Саветы і зараз яны разумеюць, што ўжо не праходзяць па партыйных сьпісах. Таму яны паводзяць сябе па прынцыпу: калі не мы, дык і вам няма чаго", - сказаў ён. Каардынатар фракцыі БНФ С.Навумчык паведаміў, што Народны Фронт адчувае сябе ўпэўненым і пры мажарытарнай сістэме выбараў.

Лідэр БСДГ А.Трусаў заявіў, што яго партыя заўсёды выступала за зьмешаную выбарчую сістэму, каб у парламент прайшло менш папулістаў і каб разьвівалася шматпартыйная сістэма. "Але мы не баімся выбараў па мажарытарнай сістэме", - падкрэсьліў народны дэпутат. Ён таксама паведаміў, што практычна вырашана пытаньне аб стварэньні перадвыбарчага блока БСДГ і БНФ. Па словах лідэра сацыял-дэмакратаў, гэтыя дзьве партыі змогуць вылучыць свайго кандыдата ў кожнай з 260 выбарчых акруг.

Спадар Трусаў выказаў меркаваньне, што ад Грамады ў парламент змогуць прайсьці 35-40 чалавек і яшчэ каля 100 мандатаў атрымае Народны Фронт. Ён таксама адзначыў, што блок БСДГ-БНФ будзе адкрытым для далучэньня. Заяву аб намеры ўвайсьці ў яго падпісалі 7 партый, але не ўсе, на яго думку, змогуць прайсьці перарэгістрацыю ў адпаведнасьці з новымі патрабаваньнямі (наяўнасьць - 500 сяброў). А.Трусаў адзначыў, што з іншымі партыямі магчымы "мякькі блок", які б меркаваў забарону на агітацыю адзін супраць другога і сумесную падтрымку ўдзельнікаў блока, які выйдзе ў другі тур.

## СТВАРЭНЬНЕ «ГРУП» НЕБЯСЬПЕЧНА ДЛЯ БЕЛАРУСІ

Намесьнік старшыні камісіі па эканамічнай рэформе ВС РБ В.Алампіеў заявіў, што прапанова Расеі аб стварэньні сумесных з Беларусьсю Фінансава-прамысловых груп (ФПГ) патрабуе дадатковага вывучэньня. На яго думку, іх стварэньне ва ўмовах, калі ў Расеі прыватызавана асноўная частка дзяржаўнай уласнасьці, а на Беларусі гэты працэс толькі пачынаецца, прывядзе да таго, што грамадзяне рэспублікі нічога не атрымаюць на прыватызацыйныя чэкі (ФПГ будуць стварацца перш за ўсё на аснове найбольш перспектыўных прадпрыемстваў).

Не можа не насьцярожваць той факт, што рабочую групу з расейскага боку ўзначальвае чалавек, які ў свой час актыўна выступаў у падтрымку ідэі аб'яднаньня грашовых сістэмаў. В.Алампіеў выказаў думку, што пасьля няўдалай спробы зрабіць апошняе, тыя ж людзі спрабуюць абходным шляхам прыхапіць уласнасьць Беларусі. "Я не веру, што гэты чалавек будзе сур'ёзна ставіцца да работы, - сказаў народны дэпутат. - За гэтым несумненна стаяць якіясьці іншыя інтарэсы.

Нагадаем, што ідэю стварэньня ФПГ упершыню прапанаваў абмеркаваць беларускаму парламенту старшыня камітэта па бюджэту і фінансах Савета Федэрацыі М.Ганчар. У красавіку ён актыўна падтрымаў ідэю аб'яднаньня грашовых сістэм Расеі і Беларусі.

**СІМ**

 

# ЧАЛАВЕК І ЗАКОН

# САЛОДКАЕ СЛОВА СВАБОДА...

*Раней тут зьвінелі дзіцячыя галасы, і мудрыя педагогі засявалі сэрцы маленькіх чалавечыкаў добрым, сьветлым, чыстым... Гэты драўляны будынак сярод велізарнага яблыневага саду і сёньня падаецца звычайнай пачатковай школай. Калі б не краты на вокнах...*

*Цяпер у вёсцы Савічы разьмяшчаецца спецкамендатура нумар адзін (па-простаму - "пасяленьне"), дзе адбываюць пакараньне ўмоўна асуджаныя людзі з абавязковым прыцягненьнем да працы. Людзі, якія парушылі закон, якім дзяржава дала шанц...*

...Хлапчуковы твар. Вельмі-вельмі прыгожы, жывы, разумны. Хочацца глядзець у гэтыя вочы бясконца. Юра з задавальненьнем паказвае свае "апартаменты": вялікі пакой з акуратна засьцеленым ложкам, сталом, халадзільнікам, чыстымі фіранкамі.

"Нядрэнны хлопец, - казалі мне пра яго напярэдадні нашага знаёмства, - але калі напьецца - адключаецца..."

- Еххаў у тралейбусе пасьля сяброўскай вечарыны. Хтосьці штурхнуў мяне, а я ў адказ "размахнуўся"... Два гады і шэсьць месяцаў пасяленьня атрымаў, - Юра гаворыць пра сваё мінулае без сарамлівасьці, але з непадробным шкадаваньнем. - Цяпер вось адбываю тэрмін...

- Цяжка табе, гарадзкому, сялянскую працу выконваць?

- Я ніякай працы не баюся. Цяжка іншае: усьведамляць, як пакутуюць мама (я ў яе адзіны сын) і жонка. Я нядаўна ажаніўся, хутка сам стану бацькам. Так хочацца заусёды быць побач з блізкімі! На жаль, бачымся толькі па выходных... Гэта мне навука на ўсё жыцьцё...

...Пеця разам з сябрамі абрабаваў лідзкія дачы. "Зарабіў" два гады пасяленьня. Год ужо адбыў. Працуе сумленна ў "Навадворскім". А некалькі месяцаў таму знайшоў тут сваё шчасьце! Ажаніўся на мясцовай дзяўчыне. Цяпер разам з маладой жонкай жыве ў цешчы і, як ніколі раней, марыць пра свабоду і новае жыцьцё.

- Год, праведзены тут, мяне навучыў многаму. Здаецца, я паразумнеў, і больш ніколі чужога не вазьму. Тут добрая школа жыцьця. Але шкада, што для разуменьня многіх зусім простых ісьцін мне давялося прайсьці менавіта гэтую школу...

У спецкамендатуру адбываюць пакараньне людзі з усёй Гарадзенскай вобласьці, людзі вельмі розныя. Хтосьці "расплачваецца" за скрадзены мех цукру, некалькі парасят, два мяхі ячменю ці аконную раму, хтосьці - за вялікія колькасьці паліва, буйное рабаўніцтва, рэкет. Розныя людзі, розныя лёсы. Аднолькавыя ў адным - сюды, у спецкамендатуру, яны трапляюць не па ўласнаму жаданьню, а па прадпісаньню для адбыцьця пакараньня, на тэрмін, вызначаны судом. Іх разьмяшчаюць у інтэрнаце, працаўладкоўваюць у мясцовых гаспадарках - калгасе імя Фрунзэ і саўгасе "Навадворскі" (там, дзе іх рукі найбольш патрэбныя).І пачнецца адлік дзён, начэй, тыдняў, месяцаў... Жыцьцё, на першы погляд, звычайнае: тут не ходзяць строем ці пад канвоем, пасьля напружаных працоўных дзён гатуюць вячэру, чытаюць, гуляюць у тэніс, глядзяць тэлевізар, ходзяць на танцы, займаюцца спортам. Вось толькі прывязаны яны да будынка сярод яблынь нябачнай ніткай, і нават калі моцна-моцна зашчыміць сэрца па дому, не могуць у любы час ад'ехаць і абняць бацькоў, каханую жанчыну, сына, дачку...

Асноўны кантынгент спецкамендатуры ў Савічах, як, дарэчы, і ў дзьвюх іншых, размешчаных на тэрыторыі Шчучынскага раёна, - маладыя хлопцы дваццаці-дваццаці пяці гадоў, якія напросту згубіліся ў жыцьці. Сюды іх прыводзіць гарэлка і жаданьне жыць прыгожа пры поўнай адсутнасьці сродкаў. Грошы "дастаюцца" любымі несумленнымі спосабамі.

Пакаяньне прыходзіць потым. Калі наступае працьвярэньне і асабліва востра адчуваецца ўся горыч, безвыходнасьць сітуацыі. Калі становіцца немагчыма без болю глядзець у матчыны вочы. Калі хочацца заснуць і прачнуцца зусім іншым, чыстым і ні ў чым не вінаватым.

- Мы сёе, усё наша грамадзтва нясем адказнасьць за тое, што гэтыя людзі зрабілі памылку, не знайшлі свайго месца ў жыцьці, - гаворыць намесьнік начальніка спецкамендатуры Сяргей Капуза. Гэта малады чалавек, крышачку філосаф і рамантык, і зусім не падобны да звыклага вобразу міліцыянера. Ён яшчэ не навучыўся ненавідзець, таму яго сэрца гэтак чуйна рэагуе на чужыя пачуцьці, таму ім валодае такое шчырае жаданьне дапамагчы сваім падначаленым. -Маладым людзям, якія сёньня выходзяць у вялікае жыцьцё, часам няма нават за што ўчапіцца. Яны настолькі сацыяльна неабароненыя, што трэба быць маральна вельмі моцным чалавекам, каб не зламацца, выстаяць у гэтым хаосе...

У кожным умоўна асуджаным Сяргей бачыць чалавека. Чалавека непачасьлівага, страціўшага з-пад ног трывалую глебу. Ён перакананы ў тым, што ў кожным закладзены добры пачатак, што з кожным можна знайсьці ўзаемаразуменьне. Я была сьведкай эпізоду, калі пасяленцы прыходзяць да Сяргея за парадай. Прычым, не як да службовай асобы, а як да чулага чалавека.

- Не баішся панібрацтва? - спытала я.

- Не. Я адчуваю, дзе, з кім і як размаўляць. Спружыну трэба трымаць у дастаткова заціснутым стане, але і настолькі ж выслабленай. Бо калі карыстацца толькі загадамі, крыкамі, калі абвастраць становішча - пачнуцца агрэсія, крыўды і, безумоўна, пабегі...

Перавыхаваць дарослага чалавека немагчыма. Але можна дапамагчы яму пераасэнсаваць жыцьцё, пакаяцца, паверыць у магчымасьць усё перайначыць. Гэта выдатна разумеюць Сяргей Капуза і яго калегі Аляксандр Марчук і Аляксандр Страленя, якія не шкадуюць свайго здароўя, духоўнай сілы, цярпеньня дзеля выратаваньня аблудных душаў.

Бачылі б вы, як плачуць сталыя мужчыны, якіх з-за парушэньняў дысцыпліны пазбавілі магчымасьці на выхадных зьездзіць дахаты і пабачыцца з роднымі! Правёўшы паўдня ў спецкамендатуры, я адчула, што менавіта ён, гэты кароткатэрміновы водпуск, зьяўляецца галоўным стымулам асуджаных. І яшчэ, канешне, датэрміновае вызваленьне. Летась семнаццаць чалавек пайшлі са спецкамендатуры, адбыўшы толькі паўтэрміну. У гэтым годзе датэрмінова вызвалена дзевяць чалавек.

Больш за ўсё тут, у Савічах, я баялася ўбачыць азлобленыя раздражнёныя твары, безвыходнасьць і адчай у вачах, сутыкнуцца з грубасьцю. Дзякуй Богу, гэтага не адбылося. І я з прыемнасьцю адзначыла, што акуратная кухня ў спецкамендатуры вельмі падобная да той, што была ў нашым школьным працоўным лагеры, і што на ўсьмешку тут адказваюць усьмешкай, і што ў яблыневым садзе наліваюцца яблыкі, і што ў халодным, ледзянячым душу "мяшку" - пакоі для парушальнікаў - амаль не бывае "кліентаў", і што сёлета ніхто з умоўна асуджаных не ўчыніў ніякіх злачынстваў...

У той жа час немагчыма было не заўважыць жудасную цеснату ў жылых пакоях, шматлікія бытавыя нязручнасьці. Гэта спецкамендатура, як і дзьве іншыя, адчынялася на тэрыторыі раёна дзеля таго, каб вырашыць вельмі балючую праблему - недахоп, а то і адсутнасьць рабочай сілы ў сельскай гаспадарцы. Згодна дагаворам, калгасы і саўгасы, на тэрыторыях якіх разьмяшчаюцца спецкамендатуры, павінны былі ствараць належныя ўмовы для жыцьця ўмоўна асуджаных і супрацоўнікаў міліцыі. На справе гэтага не адбылося. Таму многія асуджаныя сьпяць на падлозе і самі мяюць бялізну, таму няма жылля ў большасьці работнікаў спецкамендатуры, не хапае транспарту, паліва, грошай, дрэнная тэлефонная сувязь і яшчэ шмат-шмат усялякіх праблемаў... Ад іх вырашэньня ў многім залежыць тое, якім пасьля адбыцця тэрміну пакараньня вернецца дамоў чалавек: ачышчаны маральнымі пакутамі ці яшчэ больш запэцканы ў бруд. Першыя, як правіла, больш ніколі не трапляюць на лаву падсудных. Другія ж з галавой акунаюцца ў багну злачынстваў.

Калі ёсьць шанц выратаваць хаця б аднаго чалавека, яго нельга не выкарыстаць...

Мы сядзім у пакоі нумар пяць і размаўляем пра палітыку. Хлопцаў хвалюе ўсё: і выбарчая кампанія, і "разборкі" ў Вярхоўным Савеце, і рублёвая зона. На плітцы ў вялізнай місцы даваравецца суп. А на каленях у Юры даверліва мурлыкае прыгажуня-кошка Каця - гадаванка пятага пакоя, а яшчэ ў спецкамендатуры жывуць два агульных ката, якіх шкадуюць і песьцяць усе. Расказваюць, аднаго з кацянят падабралі такім малюсенькім і бездапаможным, што яго давялося выкармліваць з піпеткі...

- Каты сябруюць толькі з добрымі людзьмі, - між іншым, зазначаю я і, злавіўшы шчырую непасрэдную Юраву ўсьмешку, усё разумею без слоў.

Я веру ў яго. У розум і здольнасьць знайсьці сябе. Дай Божа, каб там, на доўгачаканай свабодзе, яму таксама паверылі...

**Ала БІБІКАВА.**

## ПРА «НАЦЫЯНАЛЬНАЕ БЕДЗТВА» КАЗАЦЬ РАНА, АЛЕ Ж...

Шмат лічбаў і фактаў паведамілі на прэс-канферэнцыі прадстаўнікоў абласных праваахоўных органаў, на якой гаварылася аб іх рабоце па забесьпячэньню законнасьці і парадку, намесьнік начальніка ЎУС Гарадзенскага аблвыканкама В.Аўрамчык. І хаця, на думку палкоўніка міліцыі, "становішча дастаткова сур'ёзнае, але драматычным ці трагічным яго назваць нельга". Зараз праводзіцца рэарганізацыя службаў органаў унутраных спраў; супрацоўнікі міліцыі пераводзяцца на работу па ўчастках; распрацоўваюцца пытаньні, зьвязаныя са стварэньнем на дарозе Менск-Горадня ўчасткаў міліцыі і "Асацыяцыі насельніцтва за бясьпеку", а таксама з адкрыцьцём ў Горадні дома для бяздомных; умацоўваецца служба сьледзтва, крымінальнага вышуку.

Больш катэгарычна выказаўся аб крымінальнай сітуацыі першы намесьнік пракурора вобласьці В.Абрамовіч. Ён лічыць, што статыстыка не адлюстроўвае сапраўдны стан спраў. На яго думку, колькасьць выяўленых фактаў хабарніцтва і раскраданьняў не адпавядае рэчаіснасьці. "Органы" не могуць эфектыўна змагацца са злачыннасьцю. Прычыны: развал Саюза ("мы аказаліся няздольнымі працаваць аўтаномна"), недасканаласьць заканадаўства, якое прынята дзесяткі гадоў таму ("Дзе абарона сьведкі, пацярпелага?" "Няма дзяржаўнай канцэпцыі барацьбы са злачыннасьцю"). Пракурор В.Абрамовіч таксама адзначыў: "Становішча, якое складваецца са злачыннасьцю, можа стаць нацыянальным бедзтвам".

Потым журналісты рэспубліканскіх і мясцовых сродкаў масавай інфармацыі атрымалі адказы на зададзеныя пытаньні.

В.Абрамовіч абверг інфармацыю, якая тычылася затрыманьня 25 мытнікаў і памежнікаў, што быццам бы арганізавалі пераход праз мяжу "нелегалаў" ("Ніхто не ўстаноўлены з памежнага атрада, каб аказваў садзеяньне ў пераходзе мяжы"). У той жа час за збыт за мяжу ядахімікатаў і іншыя злачынствы арыштавана 18 чалавек, у тым ліку мытнікаў і памежнікаў.

В.Аўрамчык не бачыць нічога страшнага ў тым, што на працягу некалькіх начэй міліцыянты ахоўвалі часткі помніка і вянкі на магіле былога старшыні Гарадзенскага аблвыканкама Д.Арцымені. Што датычыцца катэджаў, то, па словах начальніка АБЭЗа ЎУС С.Караля, зараз праводзіцца праверка законнасьці выдзяленьня ўчасткаў пад іх будаўніцтва, выдзяленьня катэджаў, набыцьця будматэрыялаў.

Прысутныя даведаліся таксама аб тым, што ў гэтым годзе не загінула ніводнага супрацоўніка міліцыі, хаця ў адносінах да іх зьдзейснена 44 злачынствы (летась - 21), і яны 45 разоў прымянялі агнястрэльную зброю, у выніку чаго 3 чалавекі былі паранены; што сёлета праваахоўнымі органамі праведзена 1197 прафілактычных мерапрыемстваў; што сёлета падлеткамі было ўчынена 615 злачынстваў (летась - 498), асноўная частка з якіх - крадзяжы і рабункі, і ў гэтым сэнсе школьнікі не толькі не адстаюць ад "пэтэвэшнікаў", але і пераўзыходзяць іх; што са жніўня міліцыя пачала дзейнічаць у накірунку прадухіленьня незаконных вулічных аперацый з валютай, у выніку - больш за 100 чалавек прыцягнуты да крымінальнай і адміністрацыйнай адказнасьці.

Аб "выкрывальніцкай" дзейнасьці саюза "Очищение" пракурор В.Абрамовіч сказаў прыкладна наступнае: "Ніводны з прадстаўленых імі матэрыялаў не ўяўляе для пракуратуры інтарэсу".

Перспектыва раскрыцьця забойства былога старшыні Гарадзенскага аблвыканкама Д.Арцымені цьмяная. Адказваючы на пытаньне, якое датычылася яго, В.Абрамовіч не сказаў нічога канкрэтнага, у той жа час адзначыўшы, што шмат злачынстваў, учыненых у мінулым годзе, застаюцца нераскрытымі.

**А.ДУК.**

## У СПРАВЕ ДУБОЎ УСЁ ЗАДУБЕЛА

Газета "Пагоня" пісала, што невядомымі злачынцамі непадалёк вёскі Белая Гарадзенскага раёна сьпілена 11 старых дубоў.

Аддзелам унутраных спраў Гарадзенскага райвыканкама па гэтаму выпадку была ўзбуджана крымінальная справа.

У ходзе сьледзтва высьветлілася, што дубы патаемна і без дазволу былі сьпілены больш як паўгады таму. Сьледчыя правялі праверку ўсіх тартакоў раёна, аднак сьлядоў, куды скарыстана драўніна, не знойдзена.

З-за адсутнасьці доказаў сьледзтва спынена.

**Г.ДАМІНІКАНСКІ.**

## БУМЕРАНГ МАНКУРТЫЗМУ

### Па сьлядах аднаго злачынства

На крымінальнай "арэне" зноў вызначылася Зэльвеншчына.

Нагадаю, што 21 верасьня ў тамтэйшай вёсцы Доўгаполічы за вячэрнім сталом брат забіў брата.

І вось праз два тыдні, 5 лістапада, зноў зьдзейсьнена падобнае злачынства ў суседняй вёсцы Старое Сяло.

Калі вечарам у суботу 13-гадовы Пятрок забег у хату і з парога паведаміў, што зьнянацку пашкодзіў бацькаву павозку, на якой той падвозіў кармы, 48-гадовы калгасьнік, будучы на падпітку, разьюшана шпурнуў у падлетка ладным бервяном. Сын зваліўся як падкошаны, і бацька, адчуўшы нядобрае, пабег выклікаць "хуткую дапамогу". Вядома, што ўсьлед за медыкамі прыехала міліцыя і абодвух адвезьлі ў Зэльву, толькі ў розныя ўстановы. Сьведкі кажуць, што сядаючы ў "варанок" жорсткі бацька прамовіў, нібы зарокся: "Калі ён памрэ, дык і я на гэтым сьвеце не жылец..."

Праз тры дні, калі падыйшоў час прад'яўляць затрыманаму абвінавачаньне, той даведаўся ад сьледчага свой "родны" артыкул - 106 ч.2 - "цяжкае цялеснае пашкоджаньне, якое выклікала сьмерць", бо юнак памёр напярэдадні раніцай у аўторак. Пры гэтым нястрыманы бацька не выказаў асаблівага непакою. Але калі праз некалькі хвілін вартавы прынёс у камеру абед, яе вязень неяк няёмка прысеў ля ложка на кукішкі.

Бацька-забойца і сапраўды спраўдзіў свае словы: з ануч зрабіў пятлю-вяроўку, прычапіў канец за сьпінку ложка і...

Прыгавор сумленьня выкананы, але пытаньні ўсё ж застаюцца. У гэтым годзе на Гараднічыне, падобна старасельскаму, зьдзейсьнена каля 40 злачынстваў - палова ўсіх забойстваў. Ці не расплата гэта за тое, на што хварэе грамадзтва: бяспамятнасьць, разбурэньне крэўных сувязяў, адмаўленьне гонару продкаў?

Відаць, мелі рацыю старажытныя рымляне, калі казалі: "Што пасееш, то і пажнеш".

**Георг СЫСОЙ.**

## ХОЧАШ ПРАЦАВАЦЬ У ЗАМЕЖЖЫ - СПРАЎДЗІ РАХУНАК ФІРМЫ

Нядаўна з Горадні, маючы на руках турыстычныя візы, на заробкі да Нарвегіі выехала група добраахвотнікаў. У групе быў і мой знаёмы Кастусь М. Днямі я сустрэў Кастуся ў горадзе. Пра свой вояж па "зялёныя" ён успамінае: "Толькі ў Нарвегіі я зразумеў, што папаўся на абяцанкі спрытных вярбоўшчыкаў. Наўзамен абяцанай працы на тартаку і заробку ў 500-700 долараў ЗША пры поўным пансіёне, мы трапілі на лесапавал абсякаць сукі. Гэтую ману сьцярпелі, але калі прыйшоў час аплаты нашага заробку, мы атрымалі толькі 40 працэнтаў ад абяцанага. Кінуліся да ўпраўляючага, але ніхто не ведаў англійскай мовы.

Сяк-так я па-нямецку перагаварыў з імі і высьветліў, што абсяканьне сукоў - самая нізкааплочваемая работа. Яшчэ высьветлілася, што фірма, якая нас наняла на працу, збанкрутавала. Танную рабочую сілу фірмачы-банкруты перадалі іншай дрэванарыхтоўчай фірме. Не маючы перад намі аніякіх абавязкаў, кіраўніцтва фірмы выкарыстала нашы здольнасьці як хацела. Плаціла таксама колькі хацела. Знайсьці нашых вярбоўшчыкаў мы не здолелі.

Сабраўшы свае капейкі за поўны месяц працы, я і яшчэ чацьвёра хлопцаў зьехалі з лясоў Нарвегіі. Прыехаўшы да Горадні, таксама гуртам шукалі тое бюро па найму рабочых за мяжой. Офіс, дзе было раней бюро, зараз знаходзіцца на капітальным рамонце".

**Г.ДАМІНІКАНСКІ.**





# СУМЕЖЖА

## ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

Віцэ-прэм'ер Польшчы Ю.Зых, даючы ацэнку магчымай кааліцыі перад выбарамі да Сейму партыі "Людовэй дэмакратыі" і вуніі "Вольнасьць", на прэс-канферэнцыі перад рэпарцёрамі сказаў так: "Калі кааліцыя адбудзецца, то дэпутаты, што пройдуць да сенату ад гэтых палітычных арганізацыяў змогуць істотна ўплываць на прыняцце палітычных рашэньняў Сейму, асабліва, якія будуць тычыцца рэформаў у сельскай гаспадарцы і ў прамысловасьці".

* * *

Лідэр аб'яднаньня "Канфедэрацыя Польшчы Незалежнай" Лешэк Мачульскі лічыць, што аб'яднаньне "КПН" ўнясе шэраг дапаўненьняў да новай Канстытуцыі Польшчы пасьля першага яе чытаньня ў Сейме.

Дапаўненьні будуць тычыцца толькі тых разьдзелаў Канстытуцыі, дзе будзе запісана права прэзідэнту распускаць урад.

На думку лідэра "КПН", такога запісу ў Канстытуцыі Польшчы не павінна быць.

* * *

Прымас Польшчы, кардынал Юзэф Глемб, выступаючы з прамовай падчас афіцыйнага візіту да Вялікабрытаніі ў гонар 100-годдзя прадстаўніцтва касьцёлу Польшчы ў Лондане, сказаў: "Касьцёл Польскі шануе сваіх суайчыньнікаў, загінуўшых за свабоду Польшчы на ўсіх франтах ў гады Другой сусьветнай вайны. Менавіта іх ахвяры далі доказ міжнароднаму супольніцтву, што Польшча павінна быць вольнай, незалежнай дзяржавай".

* * *

У Радоме адкрылася выстава жывапісу, прысьвечаная юбілею паўстаньня пад кіраўніцтвам Т.Касьцюшкі.

Выстава мае назву "Сяляне". Яе экспазіцыю склалі працы мастакоў Польшчы 19 стагоддзя, прысьвечаныя ўдзелу ў народным паўстаньні сялян.

Да экспазіцыі выставы сабраны палотны з 18-ці музеяў Польшчы, а таксама творы жывапісу, гэтай жа тэматыцы з Львоўскага народнага музею Украіны.

Паралельна ва ўсіх буйных гарадах Польшчы прайшлі навуковыя чытаньні, прысьвечаныя асабістай ролі Тадэвуша Касьцюшкі ў паўстаньні.

* * *

У Польшчы закончыўся восеньскі прызыў на тэрміновую вайсковую службу. Пасьля падрыхтоўкі і прысягі маладых жаўнераў у асноўным разьмесьцяць па вайсковых частках, што дыслакуюцца ўздоўж усходняй мяжы краіны. Разьмяшчэньне маладога папаўненьня ва ўсходняй частцы Польшчы - гэта адзін з ключавых момантаў ваеннай канцэпцыі Генеральнага штабу Войска Польскага.

Менавіта з Усходу для Польшчы, на думку большасьці генералітэту, зыходзіць найбольшая пагроза страты суверэнітэту краіны.

* * *

У горадзе Ясная Гара Польшчы прайшоў першы зьезд біскупаў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы. Зьезд быў прысьвечаны праблемам і традыцыям Рымска-каталіцкай царквы ў посткамуністычных краінах.

Выступаючы з прамовай перад калегамі, архібіскуп Тадэвуш Кандрусевіч зазначыў: "Мы павінны будаваць на гэтых абшарах дом любві, міласэрднасьці і справядлівасьці. Для таго, каб гэты дом быў утульны для ўсіх, нам самім найперш трэба выяўляць міласэрднасьць. Ісьці з Богам у сэрцы да людзей, дапамагаць, абараняць. Нас тут, на Ўсходзе, мала. Фактычна існуе адзін касьцёл на тэрыторыі ў 265 000 кв. кіламетраў. Гэта непараўнальна мала, бо ў суседніх з намі краінах Летуве, Латвіі - адзін прыход прыпадае на 93000 кв. метраў".

* * *

У Гліўцах прайшоў першы агульнапольскі фестываль тэатраў экумінічных. Сваё сцэнічнае майстэрства прадэманстравалі тэатральныя трупы, аснову якіх складаюць манахі каталіцкіх кляштараў.

Чынны ўдзел узялі і запрошаныя на фестываль госьці з Люксембургу, Аўстрыі, Летувы і Беларусі. Таксама ў праграме фестывалю выступіў адзін калектыў пратэстанцкай царквы Польшчы.

* * *

У Варшаве працягваюцца ўрачыстасьці, прысьвечаныя 55-м угодкам утварэньня на тэрыторыі Францыі польскіх збройных адзінак падчас Другой сусьветнай вайны. Урачыстасьці распачаліся ўскладаньнем вянкоў і кветак да Магілы невядомага жаўнера ветэранамі першай пяхотнай дывізіі, 2-ой танкавай дывізіі, а таксама жаўнерамі 1-ай брыгады "Стралкоў Падхапанскіх".

Вядома, што ва Францыі бралі ўдзел у ваенных дзеяньнях звыш 83 тысяч палякаў, пяць тысяч з якіх загінулі ў баях і 16 тысяч - трапілі ў палон.

Не зьніжаецца ў папулярнасьці кінематаграфістаў цікаўнасьць да Белавежы і Белавежскай пушчы.

Другі год запар тут здымаюць мастацкую стужку для дзяржаўнага тэлебачаньня Польшчы кінарэжысёры Бажэна і Ян Валенцкія.

Стужка, а будзе гэта тэлесерыял, мае назву "Пульс першабытнай пушчы". Фільм складаецца з пяці частак. Поўнае яго заканчэньне плануецца на пачатак 1995 года.

Па задуме тых, хто замовіў серыял, ён павінен быць камерцыйным. Таму, пасьля трансляцыі на тэлебачаньні плануецца распрадажа відэакасет, якой найперш павінен заняцца Белавежскі Прыродаахоўчы музей.

Галоўнай тэмай тэлесерыялу будуць зубры. Пра самыя патаемныя старонкі лясного жыцьця гэтых волатаў і зьбіраюцца расказаць стваральнікі фільму пан і пані Валенцкія.

## ГОСЬЦЬ ПОЛЬШЧЫ І ІТАЛІІ



Цяжкае і трагічнае жыцьцё склалася падчас Другой сусьветнай вайны ў скідзельчаніна Аляксандра Якаўлевіча Паўлоўскага, якому споўнілася 85 гадоў. А ўсё пачалося з таго, што яго, трыццацігадовага, ў жніўні 1939г. прызвалі ў Войска Польскае, каб супрацьстаяць фашысцкаму нашэсьцю. Калі Польшчы не стала, беларус Паўлоўскі аказаўся ў сталінскіх лагерах у якасьці ваеннапалоннага на Ўкраіне, а затым - у Сібіры. Вызваленьне прыйшло, калі без яго згоды Аляксандра Якаўлевіча залічылі да войска генерала Андэрса. Але ваяваць не прыйшлося. Хутка войска генерала Андэрса перапраўлілі ў Персію, а адтуль яно апынулася ў гарах Італіі пад Монтэ Касіно. Тут і быў першы бой у траўні 1944 года.

Пасьля вайны замест Радзімы Паўлоўскі трапіў у Англію, дзе пражыў некалькі гадоў. Калі вярнуўся дадому, не доўга радаваўся: адправілі з сям'ёй у ссылку, хату і маёмасьць канфіскавалі. Адбыўшы на высылцы, цераз гады вярнуўся ў разламаную хату. Доўга франтавік быў у забыцьці. Але яго ўсё ж успомнілі, уручылі медаль Польскай дзяржавы за ўдзел у абарончай вайне 1939 года, а з ёй і пасьведчаньне ветэрана ВАВ. Сёлета для Аляксандра Якаўлевіча зноў здарылася неспадзяванка, яго запрасілі ў Польшчу на 50-ыя ўгодкі бітвы пад Монтэ Касіно. Не хацеў ехаць састарэлы, але ўгаварылі. Пабываў у Варшаве і Італіі, дзе сустрэўся з баявымі сябрамі, наведаў месцы баёў, усклаў баявыя кветкі на магілы загінуўшых жаўнераў.

**На здымку: А.Я.ПАЎЛОЎСКІ.**
**Фатаграфаваў Ільля БАРЫСАЎ.**

## ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

Міжнародны валютны фонд зацьвердзіў Летувіскай Рэспубліцы заем у памеры 201 мільёна долараў ЗША. Ён, прызначаны для далейшага забесьпячэньня рэформаў і зьніжэньня інфляцыі, будзе выплачаны Летуве на працягу трох гадоў.

"Знаходзячыся ў цяжкіх умовах, Летува дасягнула прагрэсу ў вобласьці стварэньня рынкавай эканомікі", - гаворыцца ў паведамленьні МВФ.

Сёлета ўзровень інфляцыі ў краіне склаў прыкладна 71 працэнт, а мэта ўрада Летувы - да канца 1995 года зьнізіць гадавую інфляцыю да 20 працэнтаў.

* * *

На пасяджэньні парламенцкай фракцыі Ліберальна-дэмакратычнай партыі працы былі абмеркаваны зьмяненьні да закона аб прэзідэнце. Калі яны будуць прыняты, то будзе перагледжаны і аклад кіраўніка дзяржавы.

Згодна закону, які дзейнічае зараз, пры наліччэньні заробку прэзідэнту за аснову прымаецца пражытачны мінімум (зараз гэта 55 літаў). Пасьля ўплаты падаткаў, кіраўнік дзяржавы атрымлівае "на рукі" 945,45 літаў, а шараговы член Сейма - 1107 літаў.

* * *

Швецкая паліцыя бясьпекі затрымала ў канцыляры прэм'ера краіны І.Карлсона грамадзяніна Летувы, які пагражаў узарваць Ігналінскую АЭС. За тыдзень да гэтага ён прыйшоў упершыню і прынёс ліст на імя прэм'ер-міністра Швецыі, у якім казалася, што калі ўрад не выплаціць 8 мільёнаў крон (каля 1 мільёна долараў ЗША), то будзе ўзарвана АЭС.

Магчыма, ён пажадаў трапіць у швецкую турму і падзарабіць там. Не сакрэт, што грамадзяне небагатых краін нярэдка спецыяльна ідуць дзеля гэтага ў Швецыі на дробныя правапарушэньні.

На Ігналінскай АЭС узмацнёны меры бясьпекі.

* * *

З першага лістапада ў адпаведнасьці з правіламі дарожнага руху вадзіцелі ў Летуве павінны езьдзіць з уключанымі фарамі бліжкага сьвятла і ў сьветлы час сутак.

* * *

Урад краіны падтрымаў прапанову ствараць гісторыка-нацыянальны парк "Віленскія замкі". Гэта будзе шосты ў Летуве нацыянальны парк.

* * *

У Вільні адкрыты інфармацыйна-дакументальны цэнтр Эўрасавета, які будзе зьяўляцца прадстаўніцтвам гэтай арганізацыі без выкананьня дыпламатычных функцый. У штаб-кватэры цэнтра ЭС будуць зьбірацца пастановы, пратаколы Эўрасавета і разнастайных яго падразьдзелаў, уся астатняя інфармацыя і дакументы.

Падобныя цэнтры Эўрасавета ўжо дзейнічаюць у Будапешце, Варшаве, Празе, Браціславе, Маскве і Сафіі.

* * *

За парушэньне ўстаноўленых правілаў увозу алкагольных напояў 39 летувіскіх фірмаў пазбаўлены права завозіць піва ў краіну. Рашэньне наконт гэтага прыняў урад Летувы. Дагэтуль ліцэньзіі на ўвоз піва мелі 95 прадпрыемстваў і фірмаў.

* * *

У Коўне (Каўнасе) скончыўся першы Міжнародны танцавальны марафон таўстуноў, у якім прынялі ўдзел 13 пар. Акрамя ўдзельнікаў з Летувы сваю трываласьць і "грацыю" прадэманстравала група ўдзельнікаў з Эстоніі. Згодна правілам марафона, у ім маглі прыняць удзел толькі тыя, чыя вага не менш чым на 25 працэнтаў перавышае нармальную.

Вынось лівасьць таўстуноў пераўзышла ўсе чаканьні: замест запланаваных шасьці гадзін танцы, з дзесяціхвілінным перапынкам, працягваліся дзесяць. Журы, параіўшыся, прыпыніла спаборніцтва, прапанаваўшы самым цягавітым удзельнікам шляхам жрэбія вызначыць пераможцаў. Імі сталі І.Бразаўскайтэ і Э.Чэслявічус з Летувы.

* * *

У Камісарыят паліцыі Шванчэнскага раёна паступіла заява ад кіраўніцтва фірмы "Магістраліняй дуэтыкяй" дзяржпрадпрыемства "Летувас дуяс". У ім гаворыцца, што ў рысе Магунайскага лясніцтва скрадзены 1781 метр тоўстасыценных металічных труб.

Страты ацэньваюцца больш чым у 130 тысяч літаў. Работы па аднаўленьню трасы, на думку сьпецыялістаў, будуць каштаваць звыш паўмільёна літаў.

Узбуджана крымінальная справа, праведзены вобыскі, затрымана некалькі падазроных.

**МГ-ЛІР**

## НАМ ТРЭБА ВУЧЫЦЦА

У Варшаве прайшоў семінар для беларускіх эколагаў, які сумесна зарганізавалі з нашага боку фонд імя Л.Сапегі і фонд Стэфана Баторыя з Польшчы. Беларусь на семінары прадстаўлялі дзесяць чалавек.

На наша зьдзіўленьне рух у абарону акаляючага асяроддзя ў Польшчы набраў вялікую магутнасьць. Зараз у Польшчы налічваецца больш за 600 экалагічных арганізацый. Таму нездарма ў Польшчы праблема аховы навакольнага асяроддзя зьяўляецца прыярытэтнай. У Сейме дзейнічае самая вялікая па штатнаму раскладу экалагічная камісія. У рангу дарадчага воргана пры Прэзідэнце РП працуе Савет па пытаньнях экалогіі. Значнае разгалінаваньне маюць экалагі і ў іншых палатах улады. Самае галоўнае, што сістэма жыцьцяздольная.

Па дадзеным, прыведзеным прафесарам эканамічнага факультэта Варшаўскага ўніверсітэта Т.Жылічам, на экалагічныя патрэбы выдаткоўваецца каля 0,5 працэнтаў валавага нацыянальнага прыбытку, што складае прыблізна 500 мільёнаў злотых, з якіх на Варшаву прыпадае 50 працэнтаў, 40 - ідзе на ваяводзтвы і 10 - застаецца для гмінаў. Згодна з польскім заканадаўствам, сродкі бяруцца з некалькіх крыніцаў, галоўнай з якіх зьяўляецца Нацыянальны Народны фонд і Экалагічны фонд. Грошы на рахункі гэтых арганізацый трапляюць ад дзяржпадаткаў за выкарыстоўваньне прыродных рэсурсаў і ад штрафаў, што накладваюцца на прадпрыемствы і юрыдычныя асобы экалагічнай паліцыяй.

Сам жа Экалагічны фонд - унікальная сама па сабе структура. Ён дзейнічае па чатырох накірунках.

Гісторыя яго стварэньня незвычайная. Вядома, што Польшча - краіна фактычна з самым вялікім зьнешнім доўгам. Аднак у выніку даўгіх і аргументаваных перамоў з краінамі-крэдыторамі зьявілася магчымасьць скарыстоўваць 10 працэнтаў ад фонду пагашэньня крэдытаў на экалагічныя праграмы.

Разумеючы, што інвеставаньне напрамкі зьвязана з заканадаўствам, важкую ўвагу ў Польшчы надаюць прававой сістэме абароны акаляючага асяроддзя.

Нам, беларускім прадстаўнікам, на семінары была вельмі дарэчы сустрэча з панам Чайкоўскім - каардынатарам дапамогі і адначасова кансультантам Нідэрландзкага экалагічнага фонду.

Дзякуючы інфармацыі пана Чайкоўскага стала вядома, што для Беларусі ў бліжэйшы час няма шанцаў атрымаць датацыі ад заходніх экалагічных фондаў. Таму, што на чарзе для атрымання датацый стаіць аж 45 дзяржаў. Аднак ёсьць магчымасьць атрымаць крэдыт праз польскія арганізацыі. Таксама пан Чайкоўскі прапанаваў сумесна зьвяртацца да ААН з прозьбай фінансаваньня беларуска-польскіх праектаў. На яго думку ўжо зараз можна атрымаць датацыі пад шэраг праграм.

1. Абмежаваньне выкідаў газаў (кліматычныя зьмяненьні)
2. Ахова біялагічнай разнастайнасьці
3. Міжнародныя воды
4. Азонавы слой

Польшча ўжо мае гаранты па першых двух пунктах. Прычым тэма "Аховы чорнага бусла і драпежных птушак" фінансуецца вельмі шчыра.

Такім шляхам Польшча зьдзейсьніла шэраг перабудоў, без якіх нельга рухацца наперад. Асабліва тут стаіць прававы статут абароны навакольнага асяроддзя.

1.Палітычныя і эканамічныя зьмены зьяўляюцца базай для інвестыцый, новых тэхналогій і адкрываюць магчымасьці да супрацоўніцтва з заходнімі фондамі, банкамі.

2.Стварэецца прагрэсіўнае экалагічнае заканадаўства, прадуманая працаздольная структурная вертыкаль.

3.Забесьпячэньне экалагічных праграм найсучаснейшым абсталяваньнем для кантролю за забруджваньнямі.

За гэтую праграму эколагі Польшчы змагаліся 12 год. Нам, беларусам, трэба вучыцца і вывучаць падыходы суседзяў да экалогіі.

**І.АРЦУКЕВІЧ,**
**вядучы навуковы супрацоўнік інстытута біяхіміі АНБ.**

ЮРЫ ВЕСЯЛКОЎСКІ

# СЛУЦКАЯ АБАРОНА

*Гісторыя станаўленьня беларускай дзяржаўнасьці мае не адно збройнае выступленьне. Але адным з найбольшых і найлепш зарганізаваных - была Слуцкая Абарона ў лістападзе 1920 года.*

*Горад Слуцк мае сваю старую і багатую гісторыю. Аб ім першы ўспамін датуецца 1116 годам, калі менскі князь Глеб напаў на дрыгавічоў. На Слуцкае княства нападалі і кіеўскія князі, пакуль яно не ўвайшло ў склад Вялікага княства Літоўскага ў XIII стагодзьдзі. Нярэдка нападалі на Слуцк манголататары пакідаючы па сабе руіны, але за кожным разам Слуцк адбудоўваўся.*

*На пачатку XV і XVI стагодзьдзяў у Слуцку праводзілася будоўля замкаў і з часам горад стаўся магутным абаронным пунктам. Але ў жыцьці горада Слуцка важна згадаць два знакамітыя здарэньні, якія спрычыніліся да папулярызацыі гэтага горада. А гэта - Слуцкая гімназія, якая была заложана ў 1630 годзе і ў 1670-1705 гадох існавала манафактура персіцкіх паясоў, якія сталі вядомы як "Слуцкія паясы" і іх сёньня знайсьці можна ў некаторых музэях сьвету.*

*Тут трэба яшчэ дадаць, што дзякуючы ўраджайнай глебе Случчыны, яе сяляне жылі заможна і таму пасылалі сваіх дзяцей ў гімназію. Асабліва са Слуцкай гімназіі выйшла многа сьвядомых беларусаў, якія ў нацыянальна-культурным і палітычным жыцьці Беларусі адыгралі важную ролю. У час расейскай рэвалюцыі 1905 году ў Слуцку былі забастоўкі сярод старэйшых клясаў гімназіі. А ў рэвалюцыю 1917 году Случчына была першай, дзе ўлада знайшлася ў руках сьведамага беларускага нацыянальнага актыву. Калі ў Менску аб'явілі незалежнасьць Беларусі Актам 25 сакавіка 1918 году, то ў Слуцку дзейнічаў ужо Беларускі Нацыянальны Камітэт і выходзіла свая газэта "Родны Край".*

*Як бачым, Слуцк рана заняў вядучую ролю ў асьвеце і таму Случчына сталася найбольш нацыянальна сьвядомай правінцыяй Беларусі, якая дала найбольш беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, якія працавалі на ніве адраджэньня сваё дзяржавы.*

У выніку рэвалюцыі 1917 году ў Расеі, якая перакінулася часткова ў Нямеччыну, у восені 1918 году пачалося адступленьне нямецкай арміі на ўсходнім фронце. 15-га сьнежня прыйшлі ў Слуцк бальшавікі і выдалі загад N 1, у якім было сказана: "Уся грамадзкая ўлада ў горадзе і павеце пераходзіць да рэўкома. Камітэт загадвае насельніцтву горада і павета захоўваць паўнейшы спакой і парадак і папераджае, што ўсякія бясчынствы, грабяжы і контррэвалюцыйныя выступленьні, адкуль-бы яны не выходзілі, будуць зьнішчаны ў корані, а віноўныя ў парушэньні гэтага загаду будуць караціца па ўсёй строгасьці законаў рэвалюцыйнага часу аж да расстрэлу..."

Такі загад-прыказ не спалохаў случчакоў, а сарганізаваны бальшавікамі, вясной 1919 году ў Слуцку, "Свободный Слуцкий Батальон", беларускі нацыянальны актыў моўна і збройна апанаваў яго і спыніў бальшавіцкую дзейнасьць.

8-га чэрвеня 1919 году прыйшлі на Случчыну польскія войскі Пілсудскага. Палякі, падобна бальшавікам, не прызналі беларускай нацыянальнай ідэі і адносіліся да яе варожа, не даючы беларусам магчымасьці ўзмоцніцца. Такі стан трываў год часу.

Бальшавіцкі наступ на Варшаву ў ліпені 1920 году меў вялікі посьпех і гэта надта падбадзёрыла бальшавіцкіх актывістаў, якія з першых дзён свае акупацыі Случчыны павялі наступ супраць нацыянальна сьвядомых беларусаў, якія не ішлі на супрацоўніцтва, а іх актыўных дзеячоў як П.Жаўрыд і іншых, арыштоўвалі і вывозілі.

Раптоўнае і неспадзяванае паражэньне Чырвонай Арміі пад Варшавай у палове жніўня 1920 году і яе панічнае адступленьне, змусіла бальшавікоў пакінуць Случчыну. У гэты пераломны момант уцёк з савецкай турмы П.Жаўрыд і вярнуўся ў Слуцк, дзе аднавіў дзейнасьць Беларускага Нацыянальнага Камітэту. Камітэт разгарнуў сваю працу і ў першую чаргу ўзяўся за арганізацыю беларускай міліцыі ў якую ўступіла 500 чалавек - ядро будучай арміі.

Адступіўшых са Случчыны бальшавікоў заступіла войска Пілсудскага. Як раней так і цяпер беларуская нацыянальна-арганізацыйная дзейнасьць не падабалася палякам і яны праз свае інтрыгі адсунулі з Беларускага Нацыянальнага Камітэту Паўла Жаўрыда, а на яго месца пасадзілі паланафіла Паўлюкеіна і далі яму на дапамогу другога паланафіла Аляксюка. Гордыя сваёй перамогай над бальшавікамі, гэтым разам палякі аказаліся на Беларусі больш нахабнымі. Яны ўжо не гаварылі аб прынцыпе самавызначэньня, або фэдэрацыі Літвы, Беларусі і Украіны, але дыктавалі свае ўмовы бальшавікам.

У хуткім часе ваенныя падзеі на фронце злажыліся так, што 12-га кастрычніка 1920 году палякі і бальшавікі падпісалі дагавар аб перамір'і, намецілі дэмаркацыйную лінію Кіевічы-Лань і неспадзявана, прызналі незалежнасьць Украіны і Беларусі. "Трывалыя, ганаровыя, на ўзаемным даверы перагаворы", што было зазначана на самым пачатку польска-бальшавіцкай дамоўленасьці, распачаліся 18-га кастрычніка ў Рызе. Пастаноўлена было адступіць бальшавіцкай і польскай арміям няменш як 15 кілёмэтраў ад дэмаркацыйнай лініі. Такім парадкам утварылася зона шырынёй 30 кілёмэтраў у якой знайшоўся горад Слуцк.

Знайшоўшыся ў нейтральнай зоне, асабліва інтэлігэнцыя, моладзь і вайскоўцы, якіх на Случчыне налічвалася больш за 300 афіцэраў розных рангаў і зброі, пачалі выказваць рашучасьць супраць акупантаў. Нават слуцкі "хлоп" і "мужык", якіх акупацыйная бяда хоць мучыла, але і вучыла, пачалі разумець, што ніхто ім паратунку не прынясе, з няволі ня вызваліць, свабоды ня дасьць, а яе трэба дабівацца самім, сваімі собскімі сіламі і самі ўзяліся за работу.

Захадамі Беларускага Нацыянальнага Камітэту склікана ў Слуцк на 14-га лістапада 1920 году Зьезд Случчыны, каб народ сам рашыў свой лёс. На Зьезд прыбыло 107 дэлегатаў ад Слуцка і 15-ці паветаў, а сярод іх прадстаўнікі ад Беларускай Нацыянальнай Рады, ад Найвышэйшай Рады і нават афіцэры ад генерала Булак-Балаховіча.

Гэтым разам палякі не перашкаджалі беларусам у іхняй дзейнасьці таму, што ў выніку іхняга договару з бальшавікамі 12-га кастрычніка, Случчына мела адыйсьці да Саветаў, а фактычна была зонай нейтральнай. Па-другое, усякія бунты на савецкай тэрыторыі давалі палякам лепшыя шансы выйгрышу на мірных перагаворах у Рызе.

Зьезд Случчыны, які адбыўся ў вялікім доме памешчыка Э.Вайніловіча, неадкладна адсунуў ад кіраўніцтва Нацыянальным Камітэтам паланафіла Паўлюкевіча і ўсю ўладу перадаў у рукі беларускіх незалежнікаў - эсэраў. На старшыню Зьезду выбрана Васіля Русака, а на заступніка судзьдзю Уладзіміра Пракулевіча. У кіраўніцтва Рады Случчыны выбрана 17 чалавек на чале з У.Пракулевічам. Зьезд прайходзіў у духу патрыятычным, аб чым гаворыць наступная рэзалюцыя: "Першы Беларускі Зьезд Случчыны, скліканы ў ліку 107 асобаў, вітае найвышэйшую Раду Беларускай Народнай Рэспублікі і заяўляе, што ўсе свае сілы аддасьць на адбудову Бацькаўшчыны, катэгарычна пратэстуе супраць заняцьця нашай Бацькаўшчыны чужацкімі і самазванымі савецкімі ўладамі.

Хай жыве вольная, Незалежная Народная Беларуская Рэспубліка ў яе этнаграфічных межах!"

Пасьля заканчэньня Зьезду, Рада Случчыны стала часовым урадам Случчыны і адразу прыступіла да арганізацыі збройных сілаў. Праз тыдзень часу, 21-га лістапада, рада Случчыны выдала Дэкларацыю ў якой гаварылася аб незалежнасьці Беларусі і "у выніку патрэбы сілаю аружжа, ня гледзячы на лічэбную перавагу ворага, думаючы, што наша справа - справа праўдзівая, а праўда заўсёды закрасуе."

Словы напісаныя на паперы случчакі задэманстравалі чынам. На заклік Рады Случчыны адгукнуліся амаль усе маладыя, старыя і нават жанчыны аказалі дапамогу. За пару дзён створаны 1-шы Беларускі Слуцкі полк пад камандай П.Чайкі, які ў свой час працаваў ў Генеральным Штабе расейскай арміі. Адначасна створаны 2-гі Беларускі Грозаўскі полк пад камандай Семянюка. (У лютым 1920 г. Семянюк камандаваў 1-ым Беларускім партызанскім атрадам.)

З гэтых двух палкоў утворана 1-ю Беларускую брыгаду на чале з капітанам Анціповічам. Да случчакоў пачалі далучацца некаторыя групы партызан, якія раней ваявалі з акупантамі.

Работай Слуцкай Абароны кіраваў Галоўны Штаб. Брыгада была падзелена на палкі, батальёны, роты, мела конны атрад, табар і сваю аружэйную майстэрню. Пры Штабе брыгады створаны быў Асобны атрад з двух ротаў, ваенны суд, палявы шпіталь і дзейнічала разьведка і контрразьведка. У параўнаньні да другіх беларускіх збройных выступленьняў Слуцкая Абарона адзначалася сваёю дасканалай арганізацыяй, што гаворыць аб яе дасьведчаным кіраўніцтве, якое прадбачвала збройнае змаганьне на даўжэйшы час.

Першыя баі случчакоў з рэгулярнымі сіламі Чырвонай Арміі пачаліся 26-27 лістапада і незадоўга ўтварыўся фронт на нейкіх 100 кілёмэтраў. Ня буду апісваць баі случчакоў з Чырвонай Арміяй, але скажу, што з недахопам зброі, амуніцыі і пераважаючых сіл рэгулярнай арміі праціўніка, случчакі змушаны былі 31-га сьнежня 1920 году перайсьці за раку Лань, дзе ў ваколіцы вёскі Сіняўка іх разаружылі палякі. Але некаторыя случчакі не зложылі аружжа а прадаўжалі барацьбу з чэкістамі аж да 1929 году.

Калі набліжаўся канец збройнага чыну случчакоў, з ім і будучыня Беларусі выглядала трагічна. Беларуская газэта "Змаганьне" 10-га сьнежня 1920 году пісала: "Цяпер надышоў час, калі Беларуская Рэспубліка ня можа больш існаваць без сваёй беларускай арміі, якая толькі адна можа зразумець правільныя справы перадавога беларускага народа і несьці ўнутраную і зьнешнюю ахову Беларускай Рэспублікі".

Случчакі змагаліся і памiралі на полі бою за вольнасьць і незалежнасьць Беларусі і нават у крытычны час не пайшлі на ніякія кампрамісы. Сваім чынам случчакі адкрылі новую саронку збройнага змаганьня ў гісторыі беларускага народа за вольнасьць і незалежнасьць. Яны паказалі сваю стойкасьць, салідарнасьць, маральную сілу, ахвярнасьць і арганічную ненавісьць да акупанта-наездніка.

Адзін з удзельнікаў Слуцкай Абароны А.Кабычкін так успамінае тыя дні: "Мне даводзілася быць сьведкам збройнай барацьбы розных партызанскіх аддзелаў на Украіне, але нідзе я ня бачыў гэтакага запалу як у Слуцкіх Паўстанцаў. Гэта была, бадай, адзіная ў сьвеце вайсковая фармацыя, якая нічога ня брала ў насельніцтва і не рабіла ніякіх рэквізіцыяў. Зрэшты ў гэтым не было і патрэбы, бо ўсё патрэбнае для войска, як фураж, прадукты, і нават вопратка сяляне самі дабраахвотна прывозілі ў Семежава... Трэба было бачыць, як, амаль штодня, цягнуліся абозы ў Семежава (частка з бел-чырвона-белым сьцягам на першым возе) з усім патрэбным для паўстанцаў, каб належна зразумець, з якой любоўю і ахвярнасьцю адносілася насельніцтва да свайго вызвольнага войска". ("Вызвольныя шляхі", Клііленд 1965 ЗША стар. 45).

Уся Беларусь выказвала шчырыя сымпатыі і пакладала вялікія надзеі на збройны чын случчакоў. У довад свайго патрыятызму жанчыны запісваліся ў Чырвоны Крыж, шылі вопратку і прыслалі сьцяг з прыгожа вышытай Пагоняй і надпісам - "Тым, што паўсталі і пайшлі паміраць, каб жыла Беларусь".

Будучыня членаў Слуцкай Рады і афіцэраў Слуцкай Абароны склалася трагічна. Тыя, што засталіся на Случчыне былі арыштаваны бальшавікамі і сасланыя ў лагеры. Некаторых случчакоў палякі выдалі бальшавікам неафіцыйна. Заняўшы Заходнюю Беларусь у 1939 годзе НКУС арыштоўваў удзельнікаў "Слуцкага мяцежа". Тут успомнім некаторыя прозьвішчы членаў Слуцкай Рады і камандзіраў, якія загінулі трагічна:

Жаўрыд Павел - Камісар Найвышэйшай Рады Народнай Рэспублікі ў Слуцкім павеце ў 1920 годзе. Расстраляны ў Менскім ГПУ ў 1925 годзе.

Пракулевіч Уладзімір - загінуў у ГУЛАГу.

Лістапад Юры - сябра Рады Случчыны. Двойчы арыштованы і суджаны. Загінуў у ГУЛАГу.

Сасноўскі Юліян - сябра рады Случчыны - скончыў жыцьцё ў Польшчы ад польскай двойкі.

Анціповіч - капітан, сябра Рады Случчыны. Выдадзены польскімі ўладамі бальшавікам, расстраляны.

Гаўрыловіч - падпалкоўнік, загінуў у ГУЛАГу.

Самусевіч - капітан. Выдадзены польскімі ўладамі бальшавікам, расстраляны.

Бранявіцкі - паручнік. Забіты агентамі НКУС у Заходняй Беларусі.

Сокал-Катылоўскі - штабс-капітан. Пасьля заканчэньня Другой Сусьветнай вайны, выданы бальшавікамі з Заходняй Нямеччыны і пасаджаны ў ГУЛАГ. У час амністыі быў выпушчаны на волю.

Васіль Русак - старшыня Першага Зьезду Случчыны, пасьля паражэньня Слуцкай Абароны зьмігравау у Чэхаславакію.Пасьля заканчэньня Другой Сусьветнай вайны Русак быў перададзены чэскімі камуністамі ў СССР дзе яго спаткала сьмерць.

Як бачым бальшавікі разьлічыліся амаль з усімі удзельнікамі Слуцкай Абароны, каго толькі маглі папасьці ў свае рукі.

Пасьля развалу СССР, калі Беларусь прыняла форму незалежнай дзяржавы, сярод дэмакратычных і навуковых колаў Рэспублікі адзначаліся першы раз за 72 гады, угодкі Слуцкай Абароны. Прайшло гэта сьвяткаваньне пад крытыкай камуністаў з перашкодамі, а дзе і з забаронай. Аднак пачатак быў зроблены. У мінулым годзе ўгодкі Слуцкай Абароны ўшаноўваліся больш урачыста, але таксама не абыйшлося без шыканаў з боку камуністаў і некаторай адміністрацыі. Будзем бачыць, як у гэтым годзе пры першым прэзыдэнце Беларусі будзе аддадзена пашана тым беларусам, якія змагаліся і памiралі каб жыла Вольная і Незалежная Беларусь!

# ТЭЛЕПРАГРАМА

## 25 ПЯТНІЦА

### БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

8.00 навіны 8.10 Пяць хвілін на жарты 8.15 Дайджэст 8.25 "Кошчын дом", мульт 8.40 Аўтапарк 9.00 Тэлебачанне - школе. Геаграфія 9.30 "Маё каханне, мой смутак" 10.30 "Сёння ў праграме", канцэрт 10.50, 21.40 "Комікі", с. 3, 4 11.50 "Бімбат" 12.10 "Дыназаўрыкі" 12.45 "Джон Рос. Афрыканскія прыгоды", с. 8 13.20 "Пасля 2000 года" 14.15 "Пап-Ці" TV 15.00 "Партрэт у доўг", д/ф 15.25 "Неруш", д/ф 15.35 "Будзь маім сланом", мульт 15.50 Закон і мы 16.30 Шукаем ініцыятыўных 17.00 Навіны 17.10 Тэквандо ў Беларусі 17.35 Дзедка за рэпку 18.10 Навіны (Магілёў) 18.25 Кантакт 18.35 Навіны BBC 19.10 Эканамікст 19.20 "Ой, у полі азярэчка!.." 19.50 Пяць хвілін на жарты 19.55 У нас дома 20.30 Калыханка 21.00 Панарама 22.40 Пад купалам Сусвету 22.55 НІКа 23.10 "Растанемся, пакуль добрыя", с. 2 0.20 "Славянскі базар-94", ч. 3 0.50 Дайджэст 1.00 Фестываль джазавай музыкі

### КАНАЛ "АСТАНКІНА"

5.30, 7.00 Раніца 6.50, 7.50, 8.50, 9.50, 14.50, 17.50, 20.00, 22.50 Навіны 8.00 Сарока 8.25, 18.20 "Дзікая Роза" 9.00 Агарод круглы год 9.30 Іграе Смаленскі аркестр рускіх народных інструментаў 14.00 "Гарачаў і іншыя" 14.25 Хроніка дзелавога жыцця 14.30 Улада і рэформа 14.45 Наш прагноз 15.00 "Не пакідай", м/ф, с. 1 16.25 Рок-урок 16.50 Свет сёння 17.00 Чалавек і закон 17.30 Спявае Н. Салахава 17.40, 20.30 Надвор'е 17.45 "Хто ёсць хто. XX стагоддзе". Пеле 18.00 Бамонд 18.50 Поле цудаў 19.40 Добрай ночы, малышы! 20.40 Чалавек тыдня 21.00 "Вуліцы Сан-Францыска" 22.05 "Погляд" 23.05 50 x 50 23.50 Прэс-экспрэс

### КАНАЛ "РАСІЯ"

6.30 Формула-730 7.00, 11.00, 13.00, 15.00, 19.00, 22.00 Весткі 7.20 Патрабуюцца... Патрабуюцца... 7.30 Час дзелавых людзей 8.00 Навіны ABC 8.25 Паехалі 8.35 Без рэтушы 9.30 Музыка на дэсерт 9.45, 19.35 "Санта-Барбара" 10.35 Тэлегазета 10.40 Сялянскае пытанне 11.10, 13.20 Дзелавая Расія 14.00 "Калі ігралі Баха", "Манька", к/ф 15.20 Студыя "Рост" 15.50 Там-там навіны 16.05 Свята кожны дзень 16.15 Новая лінія 16.55 Дысней па пятніцах 18.40 Відэапаэзія. З. Гіпіус 18.50 Ніхто не забыты 19.25 Падрабязнасці 20.30 Джэнтльмен-шоу 21.05 "К-2": "Пацалунак у дыяфрагму" 22.20 Рака часу 22.35 Аўтаімгненне 22.30 Спартыўная карусель 22.35 "Высокая мода" ў Маскве 22.45 Зоркі гавораць 22.50 "Бальвізер", м/ф (Германія)

### САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ

12.00, 14.30, 18.30, 21.30 Інфарм ТБ 12.10 Чароўная лінія 12.25 "Нямецкая хваля" 12.50, 14.45, 17.50, 19.25 Музычны момант 13.00 Хуткая дапамога 13.30, 22.10 "Глушак", с. 5 14.00 "Горад у падарунак", муз. фільм 14.50 "Каўказская палонніца, ці Новыя прыгоды Шурыка", м/ф 16.10 "Такая далёкая блізкая мешчара", д/ф 16.20 "Дзмітрый Гнацюк" 17.20 Па ўсёй Расіі 17.30 Рознакаляровы сабака 17.55 Храм 18.50 Спорт, спорт, спорт... 19.10 "Чао, Федэрыка", прэм'ера фільма пра Ф. Феліні 21.05 Тэлемагазін 21.10 Тэлеслужба бяспекі 21.20 "Вяртанне залатой рыбкі", мульт 21.45 Спартыўныя навіны 22.00 Ваш стыль 22.40 "Добрыя дзеці", м/ф (ЗША)

### ПОЛЬШЧА - 1

07 00 Кава ці гарбата? 09 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 09 30 Праграма для дзяцей. 09 55 Гімнастыка. 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 10 25 Дашкольнікі дома. 11 00 "Маладыя вершнікі". Фільм вытв. ЗША. 11 50 Музычная праграма. 12 00 Школа для бацькоў. 12 15 Пашый сама. 12 30 Тэлежурнал. 12 50 Спасці ад забыцця. 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнес. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Селькагаспадарчая праграма. 13 40 Пра чалавека. 15 55 Праграма дня. 16 00 Для маладых гледачоў. 16 30 Танцавальны турнір. 16 55 Музычная праграма. 17 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 17 25 Для дзяцей. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Тэлежурнал. 18 30 Штотыднёвік культуры. 18 40 Тэлежурнал спажыўца. 19 05 Спатканне ўцёмную. 19 50 Сатырычная праграма. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Сонечныя дзеці". Фільм вытв. ЗША. 23 05 Пульс дня. 23 15 Чвэрць гадзіны. 23 30 Тэлежурнал. 00 00 Навіны. 00 15 Вочы ў вочы. 00 45 "Пільная кепка". Фільм вытв. ЗША. 02 20 Танцавальны турнір.

### ПОЛЬШЧА - 2

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Ранішні госць. 08 30 Курс англійскай мовы. 08 40 Раніца. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 Серыял вытв. Даніі. 10 00 Трансляцыя паседжанняў сейма. 14 00 Панарама. 15 55 Прывітанне. 16 00 Праграма для дзяцей. 16 30 Спартыўная студыя. 17 30 "З дзевяці да пяці". Камедыйны серыял вытв. ЗША. 18 00 Дакументальны фільм. 18 40 Чырвоны мост. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 00 Адзін з дзесяці. 20 35 Тэлежурнал. 21 00 Дакументальна-публіцыстычная праграма. 21 50 Тэлежурнал. 22 00 Панарама. 22 30 Забаўляльная праграма. 23 05 Мастацкі фільм. 00 20 Рэпартаж. 01 00 Панарама. 01 05 Спорт. 01 15 Забаўляльная праграма.

## 26 СУБОТА

### БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

8.00 Навіны 8.10 Эканамікст 8.20 Пяць хвілін на жарты 8.25 Аэробіка 8.55 Дайджэст 9.05 "Таміра" прапануе: рэтраспектыва фільмаў У. Матыля. "Растанемся, пакуль добрыя", с. 2 10.15 Здароўе 10.50 Паказвае Магілёў 11.20 20 мінут рэдактара 11.40 Белыя і чорныя 12.10 Шматгалоссе 13.10 Архіварыус 13.35 Белая Русь...чорная быль 14.05 "Лулу - анёл кветак" 14.40 "Званы пекла" 15.10 Сітуацыя 15.50 Сваімі рукамі 16.00 Паміж намі, жанчынамі 16.45 "Песню бярыце з сабою", ч. 2 17.55 Тэлекрама 18.05 "Чарапашкі ніндзя" 18.30 Фаварыты года 18.45 Пяць хвілін на жарты 19.00 "Нов і К"-топ-10 20.00 Міжнародныя спартыўныя навіны 20.30 Калыханка 21.00 Панарама 21.35 "Драпежнікі", м/ф 23.05 Пад купалам Сусвету 23.15 Валейбол. Беларусь - Славенія 23.55 "Баль", м/ф (Францыя-Італія) 1.40 "Каскад" 2.00 Відзьманявідзьма

### КАНАЛ "АСТАНКІНА"

6.30 Раніца дзелавога чалавека 7.15 У свеце матораў 7.45 Слова пастыра 8.00 "Марафон-15" 8.30 Кампанія "Мір" 10.00 Ранішняя пошта 10.30 Авіякасмічны салон 10.45 Без паўзы 10.55 Смак 11.10 Пераадоленне 11.40 "Гісторыя Асі Клячкінай, якая кахала, ды не выйшла замуж", м/ф 13.50, 22.50, 23.50 Навіны 14.00 Дыялог у прамым эфіры 14.40 "Спасціжэнне дэмакратыі", ч. 8 15.40 "Служэнне муз не церпіць мітусні" 16.15 У свеце жывёл 16.55 Брэйн-рынг 17.50 Да і пасля... 18.40, 20.45 "Каманда ў капелюшах" 19.40 Добрай ночы, малышы! 20.00 Навіны плюс 20.35, 23.00 Надвор'е 21.45 Што? Дзе? Калі? 23.05 Хіт-парад у Астанкіна

### КАНАЛ "РАСІЯ"

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі 7.25 Мульці-пульці 7.40 Студыя "Рост" 8.10 Расійскае бюро падарожжаў 8.55 Парламенцкі тыдзень 9.40 Рэтра-шлягер 10.10 Да Масквы - далёка 10.55 "Лялька", м/ф (Польшча), с. 1 12.15 Гаіці: рэспубліка - дыктатура 12.35 Тэлеэрудыт 12.40 Сялянскае пытанне 13.20 Дэ факта 13.35 "Эдэра" 14.30 Футбол без межаў 15.15 Тэлеэрудыт 15.20 Парк-ТБ 16.10 "Таццяна і зямля Рэйнгаў", д/ф 16.40 Інтэрв'ю прэзідэнта ФРГ Р. Херцага 16.45 "Карлік Нос", мульт 17.10 "Вінаваты", м/ф 18.45 Свята кожны дзень 19.25 "Пілат і іншыя", м/ф 21.05 Двайны партрэт 22.20 Рака часу 22.25 Аўтаімгненне 22.30 Спартыўная карусель 22.35 "Высокая мода" ў Маскве 22.45 Праграма "А" 23.45 Зоркі гавораць 23.50 "Я хачу толькі, каб вы мяне кахалі", м/ф (Германія)

### САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ

8.55 "Гадзіна Фрэйзера" 9.30 Чароўная лінія 9.45 "Шлях на Паўднёвы Захад", м/ф 11.05 Мультфільмы 11.30 "Падарожжа ў краіну Чаянава", д/ф 12.25 "Рандэву". С. Галанін 13.00 Хуткая дапамога 13.30 "Тугі вузел", м/ф 15.10 Я і мой сабака 15.25 "Саліст", канцэрт 15.55 "1244, 1245, 1246", "Канцэрт па заяўках", д/ф 16.50 "Паўночная казка", мульт 16.55 "Сем пятніц на тыдні" 17.10 Казка за казкай 17.40 Экспрэс-кіно 17.55, 21.15 "Уік-энд з дэтэктывам" 18.30, 21.30 Інфарм ТБ 18.50 "Фіеста", т/ф 19.10 Вялікі фестываль 19.30 "Страсці", м/ф 21.05 "Вулічныя музыканты", т/ф 21.45 Ваш стыль 21.55 "Не хочаш - не глядзі" 23.05 "Цыганскі барон", муз. фільм

### ПОЛЬШЧА - 1

08 00 З Польшчы. 08 10 Эка-эха. 08 25 Усё аб агародзе. 08 50 Агралінія. 09 30 Спартыўны тэлежурнал. 09 55 Праграма дня. 10 00 Навіны. 10 10 Праграма каталіцкай рэдакцыі для дзяцей. 10 35 Праграма для дзяцей. 12 00 Дакументальны фільм. 12 50 Тэлежурнал. 13 00 Навіны. 13 10 Музычная праграма. 13 55 Жывёлы свету. 14 30 Мультфільмы У. Дзіснея. 15 50 Тэлежурнал. 16 50 Краіна. 17 25 "Сямейнае прадпрыемства". Камедыйны серыял вытв. Польшчы. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 25 Тэлежурнал. 18 50 Забаўляльная праграма. 19 10 "Беверлі Хілз". Серыял вытв. ЗША. 20 00 Дзіцячы тэлежурнал. 20 10 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Супраць яе волі". Фільм вытв. ЗША. 22 55 Чар-пар. 00 20 Навіны. 00 30 Спартыўная субота. 00 50 "Дачка д'ябла". Фільм вытв. ЗША. 02 20 "Гэта нешта". Фільм вытв. ЗША. 03 45 Музычная праграма.

### ПОЛЬШЧА - 2

08 00 Панарама. 08 10 Музычная раніца. 08 30 Такія адзінокія. 08 50 Урок мовы глуханямых. 08 55 Прывітанне. 09 00 Прафесія - аматар. 09 30 Мультфільм. 10 00 Мясцовая праграма. 11 00 Ваенны журнал. 11 30 Праграма пра жывёл. 12 00 Праграма для дзяцей. 13 00 Тэлежурнал. 13 05 "Вяселле". Фільм вытв. Польшчы. 14 55 Дакументальны фільм. 15 30 Жыццё побач з намі. 16 00 Спартыўная студыя. 16 30 Тэлежурнал. 16 40 Лазня з паэзіяй. 17 00 "Усё, акрамя любві". Серыял вытв. ЗША. 17 30 Тэлетурнір. 18 00 Тэлежурнал. 18 20 Дакументальны фільм. 18 55 Розыгрыш лато. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 19 30 Сем дзён - свет. 20 00 Тэлетурнір. 20 35 Тэлежурнал. 21 00 Музычная сустрэча. 22 00 Панарама. 22 30 Слова на нядзелю. 22 35 Музычны журнал. 22 40 Унутраны пейзаж. 23 40 "Дэгні". Фільм вытв. ЗША. 00 50 Тэлежурнал. 01 00 Панарама. 01 05 Забаўляльная праграма. 02 00 Спартыўная студыя.

## 27 НЯДЗЕЛЯ

### БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

8.00 Аэробіка 8.30 Добрыя весткі 8.40 Пяць хвілін на жарты 8.45 Слова да чалавека 9.15 Урокі здароўя 9.35 Беларускі тур 9.55 Пра шахматы і шахматыстаў 10.15 "ABC-клуб" 10.30 Тэлекафэ "Мая мама" 11.00 Мультклуб 11.30 "Тэлебом-біс" 12.10 Прэм'ера сімфоніі N 9 Д. Смольскага 13.00, 14.10 "Мядовы месяц" 13.40 "Тэатральны раман", к/ф 14.55 Праспект 15.25 Тэлеклуб "Гаў-гаў" 15.50 Дзелавы веснік 16.05 "Радавод" 17.05 "Чарапашкі ніндзя" 17.30 "Усё за ўсмешку" 18.05 "Мужчына і жанчына", м/ф Францыя) 19.45 "Фаварыты года" 20.00 Панарама 20.40 Калыханка 21.00 Пяць хвілін на жарты 21.10 Пад купалам Сусвету 21.20 Вячэрні роздум 21.30 "Шоу-"Палігон" 21.55 "Шок", м/ф (ЗША) 23.35 Фестываль джазавай музыкі

### КАНАЛ "АСТАНКІНА"

7.15 Алімпійская раніца 7.50 Спортлато 8.00 Марафон-15 8.30 Раным-рана 9.00 Палігон 9.30 Пакуль усе дома 10.00 Крыштальны чаравічак 10.50 Экстра-НЛА 11.20 Люстэрка 11.55 "Вясёлка" 12.30 Эканоміка і рэформы 13.00 "Падводная адысея каманды Кусто" 13.50, 17.00, 22.50, 23.50 Навіны 14.00 "Стратэгія Перамогі", ч. 9 14.55 "Шпаргалка" з падарункам 15.10 Клуб падарожнікаў 16.00 Трамвай-жаданне 16.30 Амерыка з М. Таратутам 17.10 Тэлелоцыя 17.25 Мультсерыялы (ЗША) 18.25 Надвор'е 18.30 Уся Расія 19.05 "Слова паліцэйскага", м/ф (Францыя) 21.00 Нядзеля 21.50 Спартыўны ўік-энд 22.05 Музыка ў эфіры 23.00 Сёння 24.00 Музагляд

### КАНАЛ "РАСІЯ"

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі 7.30 Студыя "Рост" 8.00 Непазнаны Сусвет 8.30 Добрай раніцы, Еўропа 9.00 Аміка верытас 9.45 Аты-баты... 10.15 Рускае лата 11.00 "Лялька", с. 2 12.25 Людзі 12.40 Шэсць сотак 13.20 "Не высечы..." 13.35 "Эдэра" 14.30 Тэатр аднаго мастака 14.50 Лепшыя гульні НБА 15.50 Свята кожны дзень 16.00 У свеце жывёл 17.00 Чароўны свет Дыснея 18.00 Каробка перадач 18.15 У пошуках літаратуры 19.25 "Усплёск", м/ф (ЗША) 21.25 У Ксюшы 22.20 Рака часу 22.25 Аўтаімгненне 22.30 Спартыўная карусель 22.35 "Высокая мода" ў Маскве 22.45 Поўня 23.45 Зоркі гавораць

### САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ

8.55 "Гаючае слова" 9.30 Чароўная лінія 9.45 "Дзень нараджэння", мульт 10.00 Экспрэс-кіно 10.15, 21.55 "Паглядзім..." 10.30 "Дачыненне", т/ф 11.00 Нядзельны лабірынт 12.30 "Музей Д'Орсэ", д/ф (Францыя) 13.30 "Хто раскажа небыліцу", мульт 13.40 "Тэелеклуб "Класіка" 15.25 Чэмпіянат Італіі па футболу 17.20 "Мой бацька гаварыў мне...", т/ф 18.15 "Сінюшчын калодзеж", мульт 18.45 Залаты ключ 18.55 Тэатральная правінцыя 19.30 Інфарм ТБ 19.50 "Коні ў акіяне", м/ф 21.25 Ваш стыль 21.50 Адамаў яблык 22.50 "Адкрыццё Івана Яфрэмава", дак.ф.

### ПОЛЬШЧА - 1

08 00 Сельская гаспадарка ў свеце. 08 15 Далёка і блізка. 08 30 Нядзеля. 09 00 Сельскагаспадарчая праграма. 09 25 Праграма дня. 09 30 Нядзельная праграма. 09 55 Праграма для дзяцей. 10 10 Тэлераніца. 10 40 Музычная скрыня. 11 10 Серыял вытв. Канады. 12 00 Навіны. 12 10 Дакументальны серыял. 13 05 Тэлеканцэрт пажаданняў. 13 35 З камерай сярод звяроў. 13 50 Нямецкі дзень на польскім тэлебачанні. 14 20 Перац і ваніль. 15 50 У старым кіно. 16 40 Нямецкі дзень на польскім телебачанні. 17 20 Тэлежурнал. 17 35 Антэна. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 25 Можна пасмяяцца. 19 00 "Дынастыя Колбі.". Серыял вытв. ЗША. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 15 "Па закліку сэрца". Серыял вытв. Италіі. 22 00 Польска-нямецкі тэлемост. 22 55 Спартыўная нядзеля. 23 20 Вечар с Аліціяй. 00 15 Дамашнія сустрэчы. 00 40 'Непаўналетні сведка'". Фільм вытв. Англіі. 02 25 Музычная праграма.

### ПОЛЬШЧА - 2

08 00 Рэха тыдня. 08 30 Фільм для глухіх. 09 15 Слова на нядзелю. 09 20 Музычная праграма. 09 30 Польскія фаміліі. 10 00 Мясцовая праграма. 11 00 Дакументальны фільм. 11 10 Рэпартаж. 12 00 Мультфільмы для дзяцей. 13 00 "Лукі Лук". Серыял вытв. Італіі. 13 50 Духі, замкі, упыры. 14 30 Схаваная камера. 15 00 Падарожжа ў часе і прасторы. 15 55 Тэлежурнал. 16 00 Тэлетэатр для дзяцей. 16 50 Другая праграма. 17 00 "Як ёсць". Серыял вытв. Польшчы. 17 30 Тэлетурнір. 18 00 Музычная праграма. 19 00 Падзеі нядзелі. 19 25 Спартыўная студыя. 19 50 Мясцовая праграма. 20 00 Тэлетурнір. 20 35 Мультфільм. 21 00 Спецыяльная лінія. 22 00 Панарама. 22 30 Нежылы востраў. 23 25 "Пад ценню дзікіх пальм". Серыял вытв. ЗША. 00 15 Тэлетэатр. 01 15 Панарама. 01 20 Зоркі сусветнага джазу.



## АБ'ЯВЫ



### ПРАДАЕМ

* відэаплеер пішучы "Самсунг". Тэл.: 31-14-68.

* дзіцячыя шубкі са штучнага футра на ўзрост 4-5 гадоў. Зьвяртацца: вул.Томіна, 14-А, кватэра 101, пасьля 18.00

* печ-"буржуйку" з камплектам труб для дымаадвода. Тэл.: 31-51-61.

* пакрышкі для легкавікоў, грузавікоў, аўтобусаў і сельскагаспадарчай тэхнікі з краін Захада і СНД. Тэл. у Вільне 35-13-14, 26-77-39, 35-13-82.

### РОЗНАЕ

* згублены пашпарт на імя Пяркеева Ўладзіміра Вацлававіча прашу вярнуць за ўзнагароду. Тэл.: 2-48-16.

* праводзіцца набор дзяўчат для працы за мяжой па кантракту. Тэл. у Вільні: 63-98-61.



СПОРТ

# І ПАТРЫЯТЫЗМУ І МАЙСТЭРСТВА

Менавіта гэтых якасьцяў вельмі не хапіла беларускім чэмпіёнам у матчы з Нарвегіяй. Чатыры безадказныя галы - доказ таму.

Відавочны факт (невядома, ці для С.Бароўскага), што стаўка на легіянераў сябе не апраўдала. Здаецца, што без "вечназялёнага" стымулу, нашыя прафесіяналы-суайчыньнікі не вельмі жадалі змагацца з добра адлажанай футбольнай машынай вікінгаў. Дадамо далёка не юны ўзрост каманды і ўдзел у яе складзе гульцоў, якія нават у сваіх расейскіх клубах сядзяць на "банцы". Гэта адыграла немалаважную ролю ў паражэньні.

У такім выпадку недахоп гульнявых сувязяў можна ліквідаваць толькі поўнай самааддачай, чаго з боку беларусаў у гэты дзень на "Дынама" і далёка не было.

Яскрава напрошваецца высновa, што гульцоў класу Раднёнак-Яхімовіч хапае і сярод футбалістаў-"тубыльцаў". Гульня Юсінца ў гэтым матчы і раней - Гурэнкі даказалі гэта.

І.ПРЫВАРОЦКІ.

## «ЦІВАЛІ» Ў ФІНАЛЕ

Тры першыя дні другой дэкады лістапада былі ў Эўропе хакейнымі. У чатырох гарадах Старога Сьвету прайшлі адборачныя гульні паўфіналу Кубка Эўрапейскіх чэмпіёнаў. У сталіцы нашай дзяржавы прайшоў турнір групы "Н".

Чэмпіён Беларусі - клуб "Цівалі" з Менску ў першай гульні паканаў чэмпіёна Аўстрыі клуб "Фельдкірх" - 5:2. У другой гульні Беларусы з разгромным лікам 14:0 паклалі на лапаткі гасьцей з Туманнага Альбіёну - клуб "Кардыф Дэ Віла".

Перад заключнай гульнёй менчукі мелі 4 ачкі. Столькі ж меў на сваім рахунку і славацкі чэмпіён "Дукла" з Трэнчына. Праўда, госьці саступалі гаспадарам лідэрства ў падгрупе па горшай розьніцы забітых і прапушчаных шайбаў.

Заключная гульня, якая праходзіла пры напоўненых трыбунах сталічнага Палацу спорту, распачалася нервова, упарта. Часам, для таго, каб разабрацца на пляцоўцы, хакеісты пускалі ў справу кулакі. Адказнасьць за вынік гульні, а да фіналу бесперашкодна выходзіў пераможца. Другой камандзе заставався толькі шанц на карысны зыход гульняў у іншых групах больш адбілася на маладых хакеістах "Цівалі". Вынік - зусім неабавязковая, нават крыўдная шайба ў нашыя вароты напрыканцы першага перыяду.

Другі перыяд праходзіў па сцэнару першага. Беларусы атакавалі, шукалі самыя блізкія шляхі да варот саперніка, "Дукла" абаранялася. Праўда, аднойчы абаронцы гасьцей зяўнулі Скабелку. Выхад сам-на-сам з варатаром нападаючага закончыўся перамогай галкіпера.

Адразу ж пасьля другога перапынку "Цівалі" ізноў атакуе, і Васіль Панкоў выкарыстоўвае непаразуменьне абаронцаў "Дуклы". Лік адзінадзін пратрымаўся да фінальнай сірэны, гук якой быў вельмі радасным для беларускіх аматараў хакею, бо наш чэмпіён сягнуў фіналу.

Фінальныя гульні Кубка Эўропы па хакею з удзелам нашага чэмпіёну пройдуць у сьнежні ў сталіцы Фінляндыі Хельсінкі.

Г.АСТРОЎСКІ.

## «ТРАНСФЕР» НА ЛАПАТКАХ

Аніякіх шанцаў не заставілі аўстрыйскаму "Трансферу" ў розыгрышу Кубка Эўрапейскай канфедэрацыі валейболу гульцы гарадзенскага клуба "Камунальнік".

Дабіўшыся посьпеху ў дамашнім матчы (3:0), нашы хлопцы, не зьніжаючы тэмпу, палажылі на лапаткі сваіх сапернікаў на іх пляцоўцы. Выключэньнем была хіба першая партыя, калі гарадзенцы саступілі 15:9. Мабілізаваўшы сілу і волю, беларусы перамаглі ў трох запар партыях 15:6, 15:5 і 15:7.

Перамога з лікам 3:1 вызначыла "Камунальнік" ў наступны тур спаборніцтваў, дзе нашым сапернікам будзе "Медзіламія" з вугорскага горада Сегет.

Гульні з вугорцамі пройдуць 3-4 сьнежня ў Горадні. Праз тыдзень - ваяж у Сегет.

Г.В.

## ПЕРАМАГЛІ МАСКВІЧЫ

Чатыры дні ў гарадзенскім Палацы дзіцячаюнацкай творчасьці 11 каманд - 55 юнакоў і дзяўчынак не даросьлей 1978 года нараджэньня бралі ўдзел у VII Міжнародным дзіцячым фестывалі "Рыцары думкі" па рускім шашкам.

Трэці раз запар апярэдзіла ўсіх каманда маскоўскага Палацу тэхнікі дзяцей і юнакоў. Масквічы на чатыры з паловай ачкоў апярэдзілі віцеблян і на сем ачкоў гаспадароў.

Пераможцы і прызёры ўзнагароджаны дыпломамі і каштоўнымі прызамі.

У.А. ГАРАНЧУК, трэнер, г.Ельск.

## МІХАЛ ШУМАХЕР ЛЕПШЫ Ў ФОРМУЛЕ-1

У Аўстраліі завяршыўся гадавы цыкл па аўтагонках Формула-1.

На жаль, асноўныя прэтэндэнты на перамогу, немец М.Шумахер і англічанін Дж.Хіл не змаглі даехаць да мэты. Аднак, нягледзячы на зыход з дыстанцыі, гоншчыкі па выніку выступленьняў за год на страціілі пазіцый.

Міхал Шумахер упершыню заваяваў Гранпры Формулы-1, а Джон Хіл адпаведна на другім месцы.

(з.д.)

ІНФАКАЛАЖ

## ЧАРАПАХА ДАДАЕ... ХУТКАСЬЦЬ

Да меню кітайскіх спартсменаў на XII Азіяцкіх гульнях у якасьці штодзённай дыеты дадаваліся стравы з чарапах, што маюць мяккі панцыр. Вядома, што эліксір з крыві гэтых земнаводных істотна стымулюе арганізм у плыўцоў і бегуноў.

## КАХАНЬНЕ ПА-АМЕРЫКАНСКУ

Па дадзеных навукоўцаў Чыкагскага ўніверсітэту сярэднестатыстычны амерыканец (амерыканка) толькі раз на тыдзень займаецца каханьнем. Трэцяя частка дарослага насельніцтва робіць гэта толькі некалькі раз на год.

Амерыканскія жанчыны ў асноўным абмяжоўваюцца ў інтымных сувязях усяго двума партнёрамі. Мужчыны даводзяць лік да шасьці-восьмі каханых.

Статыстыка паказвае, што 75 працэнтаў сямейных мужчын і 85 працэнтаў кабет захоўваюць сямейную недатыкальнасьць.

## КІШЭНЬНІКІ РЭЖУЦЬ СЕЙФЫ АЎТАГЕНАМ

Кішэнных злодзеяў Нямеччыны, відаць, болей не задавальняюць прыбыткі ад сваёй "прафесійнай" дзейнасьці.

Па зводках нямецкай паліцыі, сёлета каля 40 працэнтаў кішэньнікаў перакваліфікаваліся. Іх крадзежніцкія апетыты скіраваны на крадзяжы сейфаў, якія потым у ціхіх месцах адчыняюцца з дапамогай аўтагена.

## ТУНЭЛЬ СТАГОДДЗЯ Ў СПРАВЕ

Напрыканцы гэтага года паміж Францыяй і Вялікабрытаніяй распачнецца рэгулярны рух пасажырскіх цягнікоў па тунэлю пад пралівам Ла-Манш.

Чыгунка ў тунэлі пракладзена са спазьненьнем на цэлы год.

## З ЖЫЦЬЦЯ КАТОЎ

Самымі прывілеяванымі лічацца каты Венецыі дзе на іх утрыманьне існуе муніцыпальны падатак з гаражаў і турыстаў.

Дзякуючы гэтаму, у горадзе зарганізаваны тысячы прыютаў для катоў.

***

Самыя каштоўныя каты - бірманскія. У малайскіх храмах катам выказваюцца разнастайныя віды пашаны. У 1919 годзе амерыканскі мільярдэр заплаціў за тройку бірманскіх катоў золатам, вага якога была роўнай агульнай вазе набытку.

***

Самая вялікая любоў да катоў у нашыя дні назіраецца ў французаў. У старажытнасьці першынство належыла эгіпцянам. Вядома, што фараоны для любімых "пацех" пасьля іх сьмерці стваралі саркафагі.

***

Найбольш за ўсё каты баяцца шуму, рэзкіх рухаў, навальніцы і страты ўвагі гаспадара.

***

Самым знакамітым катом-кінаакцёрам быў кот па мянушцы Аранджы. Ён атрымаў дзьве ўзнагароды "Пэтсі" (Аскара для жывёл) за ролі ў фільме "Сьнеданьне ў Ціфані".

***

Першынство па колькасьці радавітых катоў утрымліваюць грамадзяне ЗША.

У Амерыцы зарэгістравана ажно 55 мільёнаў катоў з радаслоўнымі.

(з.д.)

Больш за дзесяць гадоў таму ў двары Зоі Уладзіміраўны і Канстанціна Аляксандравіча Будзько прыжылося малое лебядзяня, якое ў кароткі тэрмін пасябравала з качкамі, курамі. Так і жыве з таго часу лебедзь на правах хатняй птушкі, не зьбіраючыся пакідаць двор.

Цікава яшчэ і тое, што лебедзь спрабаваў шмат разоў аб'яднацца са сваімі суродзічамі, але дарэмна, яны яго зьбівалі да паўсьмерці. Калі-нікалі Джаконя ляціць на вадаём, але заўжды вяртаецца, каб пераначаваць разам з качкамі і курамі ў хлявушку. Джаконя вельмі агрэсіўны да чужых, можа ўшчыпнуць, ударыць крыламі.



На здымку: лебедзь Джаконя ў двары З.У.Будзько
Фатаграфаваў Ільля БАРЫСАЎ.

КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

## ЗАБОЙСТВЫ

Як і раней, гэтыя злачынствы не адрозьніваюцца разнастайнымі сцэнарамі.

Так, на хутары ля вёскі Бобра Шчучынскага р-на, ва ўласным хляве быў знойдзены труп 60-гадовай гаспадыні без сьлядоў цялесных пашкоджаньняў. Толькі ўскрыцьцё выявіла, што сьмерць жанчыны наступіла ад небясьпечных пашкоджаньняў. Ва ўчынку падазраецца сын загінуўшай, які пражываў сумесна з маці.

***

Цяжкае злачынства ўчынена і ў вабласным цэнтры. Калі ноччу з суботы на нядзелю пажарныя выехалі на выклік у дом N 6 на праспекту Будаўнікоў, то мелі неспадзяванку і выклікалі міліцыю.

У задымленай кватэры на першым паверсе былі знойдзены трупы мужа і жонкі. У 45-гадовага мужчыны, які ляжаў у адным пакоі, ад магутнага ўдару быў разьбіты чэрап, пераламаны шыйныя пазванкі, а на галаве і шыі равесьніцы-жонкі, якая была загорнута ў коўдру, знайшлі некалькі колата-рэзаных ранаў.

## «МЕДНЫ» ТЫДЗЕНЬ

Геаграфія крадзяжоў каляровых металаў вельмі шырокая: Астравец, Бераставіца, Ваўкавыск, Шчучын, Горадня, але "рэкорд" устанавіла Смаргоншчына.

І гэта зусім не выпадкова, бо мясцовыя "кааператары" агледзелі прывабную медную жылу у выглядзе кабелю, які належыў памежным войскам і, нібы чэхаўскія, зламысьнікі кінуліся на дармаўшчыну.

Але ж для патэнцыяльных металічных злодзеяў даходны промысел быў спынены, а самі "адыходнікі" будуць трымаць адказ у судзе.

## РАЗБОІ

Хваля разбойных нападаў пракацілася па Кастрычніцкаму раёну абласнога цэнтра ў нядзелю.

Спачатку, сярод белага дня, двое ў масках спрабавалі ўварвацца ў кватэру дома па вул.Кабяка, 8/2, але, відаць, спужаліся крыку гаспадыні і ўцяклі. Але вечарам нахабныя "маскі" зрабілі паўторны напад ужо на іншую кватэру, але ў гэтым жа пад'ездзе, дзе пражываў нідзе не працуючы гарадзенец. Зьбілі гаспадара і забралі ў яго каля 80 тысяч рублёў.

У той жа дзень трое ў масках, пагражаючы пісталетам, абрабавалі камерцыйны шапік па вул.Шчорса.

## СТРАЛЯНІНА

Акрамя разбояў нядзеля стала багатаю на страляніну. У двух выпадках зброю прымянялі супрацоўнікі міліцыі.

Так, у Смаргоні нарад міліцыі вымушаны быў прымяніць АКСУ, каб затрымаць раней асуджанага злодзея, які спрабаваў ноччу пранікнуць у краму "Агароднiна". Ад рыкашэта кулі зламысьнік атрымаў раненьні жывата і зьмешчаны ў шпіталь.

На плошчы Дзекабрыстаў у Горадні міліцыя выкарыстоўвала зброю і нават прастрэліла бензабак, каб спыніць БМВ, за рулём якога на падпітку знаходзіўся грамадзянін Нямеччыны.

У в.Дуброўня Лідзкага раёна 22-гадовы армянін, які кватэраваў у мясцовага жыхара, не паладзіў за выпіўкаю з суседам гаспадара. У выніку гарачы каўказец схапіў гаспадарскую стрэльбу і паслаў зарад шроту па хаце "крыўдзіцеля".

У Горадні 32-гадовы сьлесар ЖКГ пасьля сваркі з жонкаю з дапамогай паляўнічай стрэльбы вырашыў разьвітацца з жыцьцём. Стрэл у грудзі аказаўся несьмяротны. Самазабойца шпіталізаваны.

## ПАЛЯВАНЬНЕ

Яшчэ адно "збройнае" здарэньне адбылося каля в.Квасоўка Гарадзенскага р-на, дзе зарэгістраваны парушэньні правілаў паляваньня.

У выніку трое начных паляўнічых, якія ўжывалі падчас промыслу аўтамабільную фару, пазбавіліся не толькі здабытых трафеяў (трох зайцоў), але і двух паляўнічых стрэльбаў.

## НІЗАСЬЦІ

У рацэ Ашмянка па вул.Гальшанскай у Ашмянах знойдзены труп неданошанага семімесячнага дзіцяці.

## ПАЎТАРЭНЬНЕ – МАЦІ ВУЧЭНЬНЯ?

"Пагоня" ужо пісала пра юных крымінальных выннаходнікаў, якія спрытна абрабавалі шапік "Саюздруку" па вуліцы Савецкай у Горадні, але былі затрыманы.

На жаль, у іх зьявіўся пасьлядоўнік, які гэткім жа чынам (пастукаўшы у дзьверы) абрабаваў прадаўца камерцыйнага шапіка зноў жа на Савецкай. На гэты раз, аднак, злачынец уцёк.

Чытайце "Пагоню" і вучыцеся на прыкладах іншых.

У.ДАНІЛОВІЧ.

## ГАРАДЗЕНСКІ БАРД АТРЫМАЎ МІЖНАРОДНАЕ ПРЫЗНАНЬНЕ

Гарадзенец Віктар Шалкевіч атрымаў Гранпры на адбыўшымся ў Польшчы Міжнародным фестывалі "Восень бардаў. Бельск-94".

Дарэчы, аматары "бруднага беларускага блюзу" атрымалі магчымасьць сьпяваць песьні В.Шалкевіча па нотах: у верасьні даволі вялікую падборку твораў гарадзенца надрукаваў часопіс "Роднае слова".

Ул.інф.

"ПАГОНЯ"
РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА
Заснавальнік:
культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА".
Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.
Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.
Газета выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.
Пры передруку спасылка абавязкова.
Індэкс 63124. Ліцэнзія № 465.
Фотанабор, афсетны друк.
Гарадзенская абласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.
Заказ 4435.
Наклад 4628 паасобнікаў.